№ 26 (235) 25 чэрвеня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# ПАЗЬНЯК ГУЛЯЕ З ЛУКАШЭНКАМ

## Прыезд Зянона ў Беларусь выкліча непрадказальныя зьмены ў палітычнай сытуацыі

**Старонкі 2–5.**

# Народнае адзінства

*супраць Лукашэнкі і “падстаўных” кандыдатаў*

**Разьлік Лукашэнкі вельмі просты. Лукашэнка робіць усё, каб не апынуцца сам-насам з моцным дэмакратычным кандыдатам, і адначасова рыхтуецца да масавых фальсыфікацый.**

Тое, што прадстаўнікі грамадзкасьці не ўвайшлі ў склад выбарчых камісіяў, сьведчыць: выбары ня будуць дэмакратычныя. Гэта, зрэшты, было зразумела ўжо па тым, як Зімоўскі пасьлядоўна штопередачы бэсьціў саму ідэю незалежнаганазіраньня за падлікам галасоў, як абгрунтоўваў ён гэта фальшывымі статыстычнымі зьвесткамі.

Пэўны адказ на пытаньне, якую стратэгію незалежнаму грамадзтву сьлед проціставіць Лукашэнкавай, можна будзе даць толькі па выніках збору подпісаў за кандыдатаў у прэзыдэнты. Прычым, каб выпрацаваць слушную праграму дзеяньняў, трэба зыходзіць з разьліку на горшае: што Лукашэнка – сумленна альбо па-махлярску – у любым разе абвесьціць аб перамозе на выбарах.

Наш кандыдат мусіць быць здольны ўзьняць народ пры спробе скрасьці ў нас перамогу. Ён павінен мець патэнцыял, каб у выпадку сапраўднай перамогі Лукашэнкі стаць доўгатэрміновым лідэрам апазыцыі пасьля выбараў. Ён мусіць быць сумленным чалавекам, беларускім па духу, інакш яму не паверацць людзі, інакш ён ня дасьць рады краіне ў выпадку перамогі. Ён мусіць змагацца ня толькі за галасы сярэдняе клясы, але й дэклясаваных слаёў, якія складаюць большасьць насельніцтва. Ён мусіць знайсьці падыход і да людзей беларускае культуры, і да людзей расейскае культуры, а значыць – прапанаваць прыстойную “расейскую палітыку”. Само сабой – ён ня мусіць пакрыёма падыгрываць Лукашэнку.

Аднак, шукаючы самага здольнага сярод кандыдатаў, нельга забывацца, што ня гэты адзін чалавек вырашыць усё. Не Каштуніца вывеў Сэрбію на вуліцы, ня ён узяў пад кантроль сілавыя структуры, а Джынджыч з Абрадавічам ды Ілічам.

Адно несумненна: Беларусь мае дабіцца сыходу Лукашэнкі. Наш абавязак — рабіць для гэтага магчымае і немагчымае. Аднак, будзьма рэалістамі: за Лукашэнку стаіць Расея, яму падыгрываюць Сініцын, Машэрава, і нават Пазьняк лічыць свайго візаві “меншым злом” (што робіць зь Зянона Герастрата).

Стартаваў збор подпісаў. Гэта надзвычай важны этап. Толькі вялікая колькасьць подпісаў, сабраных рэальна апазыцыйнымі кандыдатамі, можа застрахаваць нас ад сваволі выбаркамаў, як пасьля толькі масавы ўдзел у назіраньні за выбарамі — ад фальсыфікацыяў на ўчастках. Збор подпісаў і арганізацыя назіраньня — выпрабаваньне нашага грамадзтва на цьвёрдасьць.

Менавіта таму вельмі важна аддаць свой подпіс беларускаму кандыдату.

Загадзя варта папярэдзіць: не чакайце ад збору подпісаў цудаў. Шчыра беларускім кандыдатам зьбіраць подпісы нялёгка. Грамадзтва пакуль кепска ведае і адрозьнівае прэтэндэнтаў. Расейскія мэдыі — “БДГ”, “Известия”, НТВ і г.д. — рэдка згадваюць Домаша, Казлоўскага, Ганчарыка. Іхны выбар – Лукашэнка, Сініцын, Машэрава. Яшчэ яны часта згадваюць Пазьняка, якога болей не баяцца. А рэальна апазыцыйным кандыдатам там адводзіцца столькі ж месца, колькі Крыжаноўскаму. Хто здольны зламаць такую сытуацыю? Пабачым.

Зь іншага боку, “падстаўным кандыдатам” галасы будуць прыпісваць сотнямі тысячаў. Таму не дзівіцеся і не расчароўвайцеся, калі пачуеце, што Сініцын ці Машэрава набралі больш подпісаў, чым уся “пяцёрка”. Гэта фікцыя. Тое самае рабіў перад выбарамі ва Ўкраіне Кучма. Каб вывесьці на выбары выгодных яму кандыдатаў, напрыклад, кіраўніка аднаго з крылаў Народнага Руху Ўдавенку, — подпісы штампаваліся проста па ЖЭСаўскіх сьпісах.

**Барыс Тумар**

*Ацэнка сёньняшняй палітычнай сытуацыі, аналіз таго, чаму незалежнае грамадзтва падышло да выбараў расколатым, плян далейшых дзеяньняў – у артыкуле Валер’я Булгакава і гутарцы з кіраўніком Маладзёвага інфармацыйнага цэнтру Алесем Міхалевічам на старонках 2—5.*




АЛЯКСЕЙ ЧАРНЯЕЎ

# Адвечная песьня

## *Аб адной няўдалай спробе аб’яднаньня паваеннай беларускай эміграцыі*

Ігар Лялькоў

**Чарговая ў нашай гісторыі хваля масавай эміграцыі зь беларускіх земляў, восьмая па падліках Аўгена Калубовіча, хлынула ў Заходнюю Эўропу пры канцы другой сусьветнай вайны ў выніку чарговай жа зьмены акупацыйных рэжымаў у нашым краі. У выніку, на Захадзе апынуліся сотні тысячаў нашых суайчыньнікаў, прычым упершыню сярод іх была значная колькасьць людзей, якія ўсьведамлялі сябе беларусамі. Зусім натуральна, што ў такіх абставінах пасьля 1945 г. на Захадзе склалася самая вялікая ў гісторыі беларускай эміграцыі палітычная плынь.**

Як вядома, палітычная актыўнасьць, для таго каб быць вынікова́й, вымагае вельмі высокай ступені арганізаванасьці і каардынаванасьці ў дзеяньнях суб’ектаў гэтай актыўнасьці. Гэта выдатна разумелі найбольш адукаваныя і дальнабачныя актывісты тагачаснага беларускага руху на эміграцыі, і недарэмна, па словах Янкі Запрудніка, “пэрыяд другой палавіны 40-х — пачатку 50-х гадоў быў часам арганізацыйных намаганьняў... Вялікі высілак быў пакладзены на тое, каб стварыць свае арганізацыі, прышчапіць моладзі нацыянальны сьветагляд, ... наладзіць грамадзка-культурнае жыцьцё ў краёх новага пасяленьня, устанавіць лучнасьць зь іншымі беларускімі асяродкамі, скаардынаваць нутраную і вонкавую дзейнасьць”[1]. Аднак, аб’ектыўным фактарам, які значна ўскладняў гэтую арганізацыйную працу, быў сацыяльны склад паваеннага беларускага замежжа. Пераважалі выхадцы зь вёскі, зь іх невысокім адукацыйна-культурным узроўнем, заўсёднай сялянскай хцівасьцю і прыроджаным мэркантылізмам ды індывідуалізмам. Дарэчы будзе заўважыць, што і надзвычай тонкая праслойка інтэлігенцыі, якая складалася літаральна зь некалькіх дзясяткаў асобаў, у большасьці сваёй паходзіла таксама зь вяскоўцаў і, за рэдкім выняткам, не пераўзыходзіла ўзроўню сельскага настаўніка.

Дый гэтая нешматлікая “эліта” ня мела адзінства ў палітычных і рэлігійных пытаньнях (галоўнай прычынаю гэтага былі міжасабовыя канфлікты ў вярхушцы беларускай заходняй дыяспары). Падзел сьвядомых беларусаў у замежжы на “бээнэраўцаў” (прыхільнікаў аднoўленай у 1947—48 г. Рады БНР на чале зь Міколам Абрамчыкам) і “бэцээраўцаў” (сымпатызантаў створанай у канцы 1943 г. Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслава Астроўскага) выклікаў цяжкасьці ў арганізацыйным станаўленьні нашай палітычнай эміграцыі. Гэта абумовіла яе вельмі сьціплы, у параўнаньні з эміграцыяй палякаў, прыбалтаў або ўкраінцаў, уплыў на ўнутрыпалітычнае жыцьцё Беларусі пад савецкай акупацыяй і на фармаваньне грамадзкай думкі пра Беларусь у дэмакратычным сьвеце.

**Працяг на старонцы 6**




**1982 г. "Песьняры" на гастролях у Смаленску. Зьлева направа: Аляксандар Дзямешка, Валеры Дайнэка, Уладзімер Мулявін, Анатоль Кашапараў, Ігар Палівода, Уладзіслаў Місевіч, Аркадзь Эскін, Уладзімер Ткачэнка.**

## З усёй краіны




НОВАЯ ГАЗЕТА СМАРГОНІ

### Краёўцы ідуць

**Улёткі, разьвешаныя па тэлеграфных слупах, зь ляканічным тэкстам: «Мы — Краёўцы, мы — ідзем! Любі Радзіму!»** — і здымкам хлопцаў у вайсковым адзеньні, смургонцаў не напужалі. Ніхто не рыхтуецца да сустрэчы зь імі. Нават чырвонае слова "Край" ды сымбаль — вілы, уторкнутыя ў зямлю, амаль нікога не цікавяць. Пішуць? Няхай сабе пішуць. Ідуць? Нешта не чуваць грукату падкаваных ботаў. Вось прыйдуць, тады пабачым. Хто з нас Радзіму болей любіць.

**Тацяна Скарынкіна, Смургоні**

### На 400 тысяч болей

**Доўгі час лічылася, што на тэрыторыі Беларусі вайна забрала 2 млн. 200 тыс. чалавечых жыцьцяў.** Аднак нядаўна група вучоных-гісторыкаў, архівістаў і музэйных працаўнікоў падвяла вынікі свайго двухгадовага дасьледаваньня і прадставіла новую лічбу людзкіх стратаў на тэрыторыі Беларусі за 1941–44 г.: 2 млн. 596 тыс. 676 чалавек.

Напярэдадні вайны на тэрыторыі БССР (у межах на 22 чэрвеня 1941 г.) жылі 10 млн. 528 тыс. чалавек. У 1945 г. насельніцтва Беларусі (у новых межах, безь Беласточчыны) складала 6 млн. 264,8 тыс. чалавек, а ў 1950 г. пасьля рэавакуацыі — 7 млн. 709 тыс. чалавек.

**Паводле БелаПАН**

### Арыштаваны амэрыканец

**У Менску ў пятніцу быў арыштаваны амэрыканец Чарльз Пэрыела, кіраўнік менскага прадстаўніцтва адукацыйнага фонду ACCELS,** які займаецца спрыяньнем вывучэньню ангельскай мовы. Пры вобшуку ў амэрыканца знайшлі "траўку". Знаёмыя сп.Пэрыела кажуць, што ён быў схільны да эксцэнтрычных учынкаў. Аднак ці сапраўды ён ужываў наркотыкі, ці яму іх падкінулі, ніхто ня ведае. Афіцыйнага камэнтару амэрыканскай амбасады пакуль не было. У любым разе, арышт скіраваны на нагнятаньне антыамэрыканскай гістэрыі ў грамадстве.

**Б.Т.**

## Навіны гаспадарскія

# БМЗ — за "100 даляраў"?

Са студзеня да чэрвеня бюджэт "не дабраў" 2,5 % падаткаў, і ўраду цяжка знайсьці грошы, каб сплаціць запазычанасьці па заробках настаўнікам і мэдыкам. Нават замежных інвэстараў абклалі новымі падаткамі на стабілізацыю эканомікі, падтрымку сельгасвытворцаў, будаўніцтва дарогаў і жыльля. Многія прадпрыемствы разьлічвалі давесьці заробкі да загаданых 100 даляраў дзякуючы крэдытам. Аднак пазыкі ўжо даюць толькі на два месяцы і далёка ня ўсім. У такіх умовах застаецца толькі цалкам спыняць інавацыйныя адлічэньні.

Першай ахвярай крызысу крэдытнай сыстэмы можа стацца Беларускі мэталюргічны завод. Каб плаціць рабочым "плянавыя сумы" і адначасова купляць сыравіну ды матэрыялы, жлобінцы неаднойчы прасілі дапамогі ў дзяржавы. Але атрымалі толькі дазвол шукаць пазыкі за мяжой пад гарантыю ўласнага абсталяваньня. Кіпрскія бізнэсоўцы і два расейскія банкі гатовыя выратаваць прадпрыемства. Праўда, з умовай: калі завод ня здолее вярнуць грошы праз год, ён ужо ня будзе беларускім.

**Сяржук Іваноўскі**

## Спартовы тыдзень

# *Паўтор рэкорду*

**На мінулым тыдні *FIFA* выпусьціла новы рэйтынг нацыянальных зборных 203 краінаў сьвету. Беларусы падцягнуліся з 88-га на 84-е месца, паўтарыўшы рэкорд 5-гадовай даўніны.** Нашыя першаверасьнёўскія супернікі – украінцы – апусьціліся на 43-ці радок. Палякі засталіся 23-мі ў сьвеце. Сэнсацыйную прапанову атрымалі нашы футбалісты колькі дзён таму. Жаданьне згуляць з нашымі выказалі партугальцы — 5-я каманда ў сьвеце! Аднак, нашыя не сьпяшаюцца пагаджацца. Маўляў, ня ўсіх лепшых здолеем узяць. Але дзе ж мы пасьля знойдзем такога суперніка, каб праверыць рэзэрвы?

Высьветліліся супернікі беларускіх клюбаў у эўракубках. У Кубку *UEFA* бабруйская «Белшына» згуляе са славацкім «Ружэмбэрокам», БАТЭ — з тбіліскім «Дынама», а «Шахцёр» — з сафійскім ЦСКА. Мазырская «Славія» ў кваліфікацыі да Лігі Чэмпіёнаў паспрачаецца з фарэрцамі.

А беларуская канькабежка Анжэла Кацюга вымушаная рыхтавацца да зімовай Алімпіяды за мяжой, бо ў Беларусі няма адпаведных умоваў. Гэта каштуе немалых грошай, і Міністэрства спорту ўзяло з Анжэлы ды трэнэраў расьпіску, што ў выпадку, калі яна ня ўвойдзе на гульнях у Солт-Лэйк-Сыты ў васьмёрку лепшых, мусіць вярнуць усе выдаткаваныя на падрыхтоўку грошы... З калькамі тады, відаць, прыйдзецца "завязаць"...

Сёньня стартуе тэнісны Ўімблядон — неафіцыйны чэмпіянат сьвету. Летась Вова Ваўчкоў дайшоў ажно да паўфіналу. Цяпер – у фінал?

**Богусь Біятлянёнак**

## Прыватнасьці




### Лёс Марынскай вуліцы

**Напярэдадні сьвяткаваньня 130-годзьдзя Баранавіч гарадзкія ўлады павесілі колькі памятных шыльдаў на будынкі гораду.**

Так, на музэі цяпер вісіць памятка, што ў часе першай сусьветнай вайны там месьціўся штаб нямецкіх войскаў, куды два разы заяжджаў кайзэр Вільгельм II. Будынак мэдычнай вучэльні (падчас вайны штаб СД), быў некалі гатэлем, дзе спыняўся Шалом Алейхем.

А на першым будынку па вул.Савецкай павесілі шыльды з усімі назвамі, якія яна мела: за Расейскай імпэрыяй вуліца звалася "Маріинская", за немцамі ў I сусьветную – *"Hauptstrasse"*, за палякамі – *"Szeptyckiego"*, пасьля верасьня 39-га – "Советская", падчас II-й сусьветнай вайны – "Марынская", а пасьля 1945 г. і дасёньня – зноў "Советская".

Толькі шыльда 1941–44 г. напісаная па-беларуску. Во якая іронія долі.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

### Пацярпелыя за Беларусь

21 чэрвеня ўвечары ў Барысаве фашыстоўскія малойчыкі зьбілі дзьвюх непаўнагадовых актывістак моладзевага руху «Зубр» Тацяну і Марыну Ясюк.

## Ліст ў рэдакцыю

# Дзякуем Пазьняку – галасуем за Домаша

**Ці не зьдзівіла спадарства апэратыўнасьць, зь якой быў зарэгістраваны ў якасьці кандыдата Зянон Пазьняк?**

На маю думку, гэты кандыдат патрэбны ўладам, каб растрэсьці галасы.

На выбарах 94-га Кебіч набраў 17,83%, Пазьняк 12,82, а Шушкевіч – 9,91%. Пазьняк меў магчымасьць пераарыентаваць сваіх прыхільнікаў, сказаць ім: "Я здымаю сваю кандыдатуру. Хто за мяне – галасуйце за Шушкевіча". Такім чынам, кандыдат ад дэмакратычных сілаў мог мець 22,35%. Быў бы пераможаны Кебіч, і другі тур галасаваньня не ператварыўся б у пустую фармальнасьць.

Ці мог "пераарыентаваць" сваіх прыхільнікаў Шушкевіч? Я асабіста ведаў некалькі ягоных выбарцаў. Яны не прагаласавалі б за Пазьняка ні пры якіх абставінах. Нацыянальная ідэя ім абыякавая, а Пазьняка ўжо ў той час размалявалі як экстрэміста, прыхільніка скрайніх поглядаў. Гэтым людзям падавай адно стабільнасьць і рост грашовых даходаў. Найлепш гэта мог забясьпечыць Шушкевіч, дык за Шушкевіча яны й прагаласавалі. Цяпер яны становяцца электаратам Домаша. Такім чынам, мы мусім пераканаць Зянона Станіслававіча адмовіцца ад прэтэнзіяў на "трон", хоць бы ў гэтую кампанію. Ён, мабыць, думае, што хлусьню аб ім шыюць такімі белымі ніткамі, так тапорна, што ніхто ўжо й ня верыць? Не, ёсьць у нас такое "балота", якое праглыне ўсякую нажыўку. Такія гатовыя прагаласаваць "за Сашу", таму што "большэ нікаво нет".

Так што адна кандыдатура для другога туру, на жаль, вядомая. Але важна, каб хоць гэтым разам на другі тур прайшоў дэмакратычны кандыдат. Тады ня будзе "80%", а па тэлевізары некаторыя ў першы раз пабачаць, што ў краіне ёсьць не адзін палітык... Ужо ў 94-м дэмакратычны электарат склаў 23%, можна прадбачыць, што цяпер будзе больш. Але ўсе гэтыя галасы павінны быць аддадзеныя *аднаму* кандыдату, іначай на другі тур пройдзе "нью-Кебіч" – Натальля Машэрава, – яна здольная набраць, пры падтрымцы ўладаў, свае 17%.

Амбіцыі ж Зянона Пазьняка як духоўнага лідэра нацыі могуць быць рэалізаваныя ў нейкі іншы спосаб. Перш за ўсё, ён зможа адкрыта жыць на Радзіме і адстойваць сваю пазыцыю цалкам легальна. Мы мусім падзякаваць гэтаму сьветламу чалавеку за ўсё тое магчымае й немагчымае, што ён зрабіў для Бацькаўшчыны, але... прагаласаваць 9 верасьня за Домаша.

**Аляксандар Урбановіч, Гомель**

## Беларусь-Украіна

# Заслона

**Патрыярх маскоўскі Алексій на ўкраінскі візыт Папы адказаў візытам у Беларусь.** Вандроўка пачалася ў Берасьці, што, па афіцыйнай вэрсіі, як і ўвесь візыт, было зьвязана з 60-мі ўгодкамі нападу Нямеччыны на Савецкі Саюз, дзеля чаго праваслаўны галава наведаў Берасьцейскую крэпасьць. Ён таксама асьвяціў стары савецкі помнік "Вартавым межам". Далей ягоны маршрут пойдзе па Палесьсі, празь Янова, Пінск, Столін і Тураў да Гомеля, нібы ўзводзячы духоўную заслону ўздоўж украінскае мяжы. Старт зь Берасьця сымбалічны: з гораду Уніі і цэнтру рэгіёну, дзе жыве многа ўкраінскамоўных.



Патрыярх спрабуе проціставіць беларусаў неслухам-украінцам. Алексій правяраў і трываласьць сувязяў Беларусі з Маскоўскім патрыярхатам, а то, глядзіш, і насамрэч у якім 2004 г. Рымскі Папа зьявіцца ў Менску...

**Мікола**

Валеры Булгакаў

# Мабілізацыйная кампанія Лукашэнкі

**З рэгістрацыяй ініцыятыўных групаў для збору подпісаў пачаўся новы этап перадвыбарнай гонкі. Амаль штодня адбываюцца гучныя палітычныя акцыі. Патроху разгараецца скандал, выкліканы сэнсацыйнымі прызнаньнямі сьледчых Петрушкевіча і Случака, не сьціхаюць размовы аб прычынах адстаўкі вернага лукашэнкаўца Віктара Чыкіна з пасады старшыні тэлерадыёкампаніі, а ў мінулую сераду крыніца, якая пажадала застацца невядомай, распаўсюдзіла зварот аб магчымасьці правядзеньня ўладамі тэрарыстычных актаў для дыскрэдытацыі дэмакратычных кандыдатаў. А да гэтага ўсяго на грамадзтва абрынаецца неўтаймоўны паток інфармацыі, зьвязаны з хадой кампаніі выбараў.**

Перадвыбарная гонка сапраўды займела новую якасьць. Цяпер, пасьля рэгістрацыі ініцыятыўных групаў кандыдатаў у прэзыдэнты, выявіліся раней нябачныя расклады сілаў. Лукашэнка па-ранейшаму працягвае ствараць ілюзію роўнасьці магчымасьцяў усіх вылучэнцаў. Яго бліскучы крок, па-сапраўднаму не ацэнены аналітыкамі, — прызначэньне кіраўніком сваёй ініцыятыўнай групы папулярнага майстра савецкага дэтэктыву, адстаўнога генэрала МУС і цяперашняга "старшыні камісіі па нацыянальнай бясьпецы рады рэспублікі" Мікалая Чаргінца. Апошні адразу засьвяціўся ў СМІ — у інтэрвію *"Советской Белорусии"* ён паўстаў чалавекам старой загартоўкі, хваліў Лукашэнку і прыканцы заявіў пра сваё рэзка адмоўнае стаўленьне да паліттэхнолягаў і сучасных паліттэхналёгій, як, відаць, ад яго патрабавался, засьведчыўшы поўнае дылетанцтва у гэтым пытаньні: "Брудныя" палітычныя тэхналёгіі і прыйшлі сьпярша ў Расію, а цяпер іх спрабуюць прышчапіць і ў нас, часта дзякуючы тым жа расійскім тэлеканалам. Трэба быць рэальна гатовымі да рознага роду правакацый, фальшаваньняў і кампрамату. Чорны *PR* немінуча будзе выкарыстоўвацца высокааплатнымі паліттэхнолягамі — дамарослымі і прыежджымі — супраць Аляксандра Лукашэнкі як найбольш рэальнага кандыдата на пасаду кіраўніка дзяржавы. Мы гатовыя да гэтага, але адкажам самай дзейснай збрэяй — адкрытасьцю, праўдай, рэальнай карцінай справаў".

Тэма кадравай палітыкі Лукашэнкі заслугоўвае асобнай гаворкі. У сфэры публічнай палітыкі ён схільны аддаваць перавагу шэрым пэрсанажам з прамінулай савецкай эпохі. Узяць хаця б двух старшыняў палаты прадстаўнікоў — дзябёлага чырванатварага Анатоля Малафеева ці бюракратычна стрыманага Вадзіма Папова. Такія людзі ўнутрана залежныя ад свайго гаспадара, але, што найважнейшае, яны ствараюць выгаднае ўражаньне анахранічнасьці сыстэмы дзяржаўнай улады тады, калі гэтая ўлада карыстаецца найноўшымі PR-тэхналёгіямі.

Група ляяльных Лукашэнку кандыдатаў, якая сьпярша налічвала Леаніда Сініцына (у якасьці кіраўніка ягонай ініцыятыўнай групы ўсплыў Уладзімер Сьцяпанаў — былы намесьнік старшыні Берасцейскага аблвыканкаму, адстаўка якога нарабіла шмат шуму ў мас-мэдыях; Сьцяпанаў — блізкі сябар старшыні камісіі па працы, сацыяльных пытаньнях, ахове здароўя, фізычнай культуры і спорце палаты прадстаўнікоў Станіслава Гаварушкіна; во такая была зроблена камбінацыя), Віктара Цярэшчанку (характэрна, што *"Советская Белоруссия"* ў сваіх публікацыях прадстаўляе гэтага дырэктара Міжнароднага інстытуту мэнэджмэнту як "дырэктара беларуска-нямецкага СП", пры гэтым сарамліва замоўчваецца той факт, што на апошніх парлямэнцкіх выбарах ён, як і Міхаіл Чыгір, ня здолеў здабыць дэпутацкі мандат) і некаторых іншых, папоўнілася новымі асобамі — у тым ліку сябрам рады рэспублікі ад Менску, прызначаным асабіста Лукашэнкам, Леанідам Калугіным, дэпутатам палаты прадстаўнікоў (таксама прызначаный, толькі не афіцыйна). Сяргеем Скрабцом, дэпутатам менскай гарадзкой Рады (і сюды ніхто проста

# Алесь Міхалевіч: "Трэба самім быць моцнымі"

*На пытаньні "НН" адказвае Алесь Міхалевіч, кіраўнік Моладзевага інфармацыйнага цэнтру – адзін зь лідэраў моладзевага руху Беларусі*



**"НН": Як Вы ацэньваеце перадвыбарны расклад сілаў у беларускім грамадзтве?**

**Алесь Міхалевіч:** Сапраўдны расклад сілаў выявіць збор подпісаў, аднак відавочна, што Лукашэнка і прамаскоўскія сілы зацікаўленыя ў якнайбольшай колькасьці кандыдатаў, якія будуць расьцягваць дэмакратычны й цыянальна арыентаваны электарат. Вядзецца праца, каб першае і другое месцы занялі кандыдаты зь яскрава выяўленымі прамаскоўскімі перакананьнямі.

**"НН": Якія посьпехі й паразы незалежнага грамадзтва на этапе падрыхтоўкі да выбараў цяпер зрабіліся відавочнымі?**

**А.М.:** Сталася відавочным, што, калі няма адзінага кандыдата ад дэмакратычнай апазыцыі, БНФ мусіў вылучаць свайго. Як мінімум, гэта была б праца на свой рух, на ягонае ўзмацненьне, на пэрспэктыву. Або адзіны, або свой. Звычка значнай часткі электарату галасаваць за кандыдата ад БНФ можа зьнікнуць. Нічога добрага ў будучыні гэта нам не прынясе.

Няздольнасьць вылучыць адзінага кандыдата ад апазыцыі засьведчыла непадрыхтаванасьць лідэраў апазыцыйных палітычных партыяў. Вядомае пагадненьне пяці апазыцыйных кандыдатаў увогуле зьвяло ролю палітычных партыяў у працэсе вылучэньня адзінага кандыдата да нуля. Калі мы хочам, каб БНФ як незалежніцкая палітычная сіла адрадзіў свой былы ўплыў, трэба вылучаць свайго кандыдата ў кожнай выбарчай акрузе – незалежна, на выбарах прэзыдэнта, парлямэнту ці мясцовых саветаў. Зразумела, калі гэта будзе палітычна неабходна, можна зьняць свайго кандыдата на карысьць кагосьці іншага. БНФ зьяўляецца найбуйнейшай у Беларусі палітычнай партыяй, для якой сабраць 100 000 подпісаў дастаткова проста. Незалежнікі павінны паважаць сябе, і тады пачнуць паважаць нас.

**"НН": Галоўнай задачай беларускага грамадзтва ўяўляецца гуртаваньне сілаў вакол нейкага аднаго рэальна апазыцыйнага кандыдата. Вакол каго і як гэтага дабіцца?**

**А.М.:** Было спадзяваньне, што прэзыдэнцкая кампанія спрацуе на карысьць папулярызацыі 2—3 апазыцыйных іменаў, на якія стануць арыентавацца людзі. Напрыклад, прапрацоўваўся такі варыянт: кандыдат у прэзыдэнты Домаш і ягоныя паплечнікі – партыйныя лідэры Вячорка й Лябедзька. Гэтае спадзяваньне не спраўдзілася. Гуртаваньне можна было б вакол кандыдата, вызначанага КРДС або, у крайнім выпадку, Кангрэсам Дэмакратычных Сілаў. Вядома, што кангрэс своечасова – пры канцы 2000-га — пачатку 2001 г. – праведзены ня быў і кандыдата ня вылучыў. Размовы пра тое, што большасьць удзельнікаў Кардынацыйнай Рады падтрымалі Домаша, зьяўляюцца толькі размовамі. КРДС, што была створаная для вылучэньня адзінага кандыдата, сваёй задачы ня выканала. Сямён Домаш, падпісваючы пагадненьне з Чыгіром, Ганчарыкам, Калякіным і Казлоўскім, засьведчыў тым самым, што ён адзін зь пяці, а не адзіны. Ва ўсіх дэмакратычных і незалежніцкіх партыях сябры працуюць на некалькіх кандыдатаў. Насуперак распаўсюджанаму меркаваньню, БНФ не выключэньне. Частка сяброў Фронту падтрымала вылучэньне Зянона Пазьняка, дапамагае зьбіраць за яго подпісы.

Мне здаецца, трэба аб'яднацца вакол таго кандыдата, які будзе мець шанцы ў змаганьні супраць Лукашэнкі й пры гэтым будзе стаяць на незалежніцкіх пазыцыях.

Увогуле ж, мы чакаем кандыдата, які нас прывядзе да ўлады, тады як трэба самім быць моцнымі, разбудоўваць свае структуры, уплываць на гэтае грамадзтва. Калі будзем мець сілу – рана ці позна атрымаем уладу.

**"НН": Ведаю, што Вы толькі што з Варшавы. Як там успрымаюцца нашы посьпехі і няўдачы?**

**А.М.:** Як палітычныя рэалісты, палякі разумеюць, што шанцы на перамогу у нас вельмі малыя. Аднак працэсы, якія ідуць у Беларусі, яны ацэньваюць вельмі пазытыўна. На іх думку, апазыцыя пачала выходзіць да людзей, перастала хавацца. Створаныя ўмовы для ангажаваньня новых сяброў у незалежныя структуры. І ўсе аднагназначна пагаджаюцца, што гэтыя выбары засьведчаць, чаго вартыя беларускія палітыкі.

**"НН": У пятніцу быў апячатаны офіс Вашага Моладзевага інфармацыйнага цэнтру. Што гэта, на Вашу думку, азначае?**

**А.М.:** Гэта азначае новы наступ уладных структураў на незалежнае беларускае грамадзтва. Думаю, мы не зьяўляемся тут арганізацыяй унікальнай, і гэткая сытуацыя чакае большасьць незалежніцкіх арганізацыяў – будуць прыходзіць, будуць "наяжджаць", будуць апячатваць – усё гэта будзе ад уладаў.

**"НН": А што ў Вас там такое ляжала, што Вас апячаталі?**

**А.М.:** Можа быць, гэта зьвязана з тым, што Моладзевы інфармацыйны цэнтар знаходзіцца ў гэтым памяшканьні не зусім легальна – гэта прыватная кватэра. Бо разам з афармленьнем патрэбных дамоваў узьнікае шэраг складанасьцяў.

**Гутарыў Мікола**



Сямён Домаш на адборы «Басовішча»

# Хроніка кампаніі

## ДОМАШ: ЗЬ ЯКУБОВІЧАМ І ПОСАХАВЫМ

**Пазаўчора ў Дудутках каля 300 чалавек сабраліся, каб адзначыць Купальле на сядзібе Яўгена Будзінаса.** Галоўным госьцем быў кандыдат у прэзыдэнты Сямён Домаш, бяседавалі таксама такія розныя людзі, як Павал Якубовіч, Сяргей Посахаў, Адам Глёбус, Уладзімер Цэсьлер, Жанна Літвіна, Зьміцер Бартосік, Аляксандар Уліцёнак ды інш. Самагонку пілі ўсе, апроч тых, хто, як Домаш, прыехаў за рулём.

Домаш актыўна асвойвае Менск: ягоны перадвыбарны штаб зьняў сабе памяшканьне на слаўнай вуліцы Варвашэні, а сам Домаш 21 чэрвеня патанчыў з моладзьдзю на адборы "Басовішча" ў клюбе "Тунэль". Ня вельмі, праўда, удала: дзеўкі ўсё аўтографы прасілі.

## ПАЗЬНЯК: ...А ВЫЦЬ – З ВАЎКАМІ



**Пазьняку, як і ўсім кандыдатам, даслалі падпісныя лісты і пасьведчаньні, надрукаваныя па-расейску.** Дык ён запатрабаваў: давайце перадрукоўвайце. За ім і домашаўцы сталі чытаць свае паперы: таксама па-расейску. Домаш далучыўся да патрабаваньня Пазьняка.

Вучыцеся, панове, у Пазьняка адказнасьці за беларушчыну і ўменьня рэагаваць.

## МАРЫНІЧ: ... Я АД ВАС ДАЛЁКА



**Латвійская газэта "Час" зьмясьціла вялізны матэрыял пра пасла Марыніча і ягонае кандыдацтва.**

Весьці агітацыю ў Беларусі да рэгістрацыі ў якасьці кандыдата забараняецца. А ў замежных СМІ? А ў Інтэрнэце?

**Мікола**



# скіраваная на бізнэс-колы

так ня трапіў) Юр'ем Данькавым, а таксама старым бээсэсэраўскім намэнклятурнікам Міхаілам Марынічам, чалавекам, які мае агромністыя сувязі ў асяродзьдзі дзяржапарату і ня толькі ў ім.

Касьцяк гэтай групы складаюць правераныя ўладай кадры. Падчас апошніх выбараў у менскую гарадзкую раду Юры Данькаў (Шыцік) (ён жа кіраўнік Рэспубліканскай сацыяльна-гуманітарнай дабрачыннай арганізацыі і па сумяшчальніцтве дырэктар аднаго з найбуйнейшых менскіх начных клюбаў "Данькаў-клюб", заснаванага ім сумесна зь Беларускім таварыствам глухіх(!), усяго на чатыры галасы выперадзіў галоўнага лекара раённай паліклінікі Зубілевіча.

Што датычыць Міхаіла Марыніча, да якога з такой сымпатыяй паставілася апазыцыйная прэса і нават Міхаіл Чыгір, дык ён карыстаўся неабмежаваным даверам Лукашэнкі. Толькі *"Советская Белоруссия"* летась прысьвяціла яму некалькі такіх хвалебных нарысаў, якія з пазыцыі сёньняшняга дня робіць уражаньне, што гэты чалавек распачаў сваю перадвыбарную кампанію ня сёньня і ня ўчора ("дорог пройдзена шмат... Але якія б пасады ні займаў гэты надзва сьціплы і зычлівы чалавек, ён заўсёды застаецца эталёнам сапраўднай прыстойнасьці. Учора прэзыдэнт абвясьціў М.Марынічу падзяку" (№ 9, 14.01.2000); "споўнілася 60 гадоў М.Марынічу. Міхаіл Апанасавіч зрабіў у сваім жыцьці шмат — будаваў гарады, дарогі і масты. Зь яго імем зьвязаныя стварэньне менскага мэтро, добраўпарадкаваньне нашай сталіцы — М.Марыніч быў мэрам Менску. Таленавіты чалавек таленавіты ўва ўсім! Міхаіл Апанасавіч — буйны палітык" (№ 162, 05.07.2000).

Яшчэ адзін вылучэнец, Леанід Калугін, як вынікае з публікацый Юр'я Дудзінава "На старце — 22 прэтэндэнты. Хто дабяжыць да першага фінішу?" у "Народной газете", якая зьявілася ў мінулую сераду, "глыбока веруючы праваслаўны чалавек". На пачатку мінулага тыдня "праваслаўны чалавек" яшчэ нічога ня мог адказаць на пытаньне карэспандэнта беларускай службы Радыё Свабода Юр'я Сьвірка аб прычынах свайго вылучэньня ((Калугін:) "Я ж вам сказаў — рана яшчэ пра гэта гаварыць. Ня трэба пра гэта. Ну навошта?" (Карэспандэнт:) "Але чаму Вы вырашылі вылучацца?" (Калугін:) "Ну як чаму? Таму што я грамадзянін Рэспублікі Беларусі").

А як паведаміў сакратар Цэнтравыбаркаму Мікалай Лазавік, кіраўнік ЗАТ "Гандлёвы Дом БелБабаеўскае" Сяргей Скрабец падчас падачы заявы быў у "хваравітым стане" (магчыма, намякаючы на стан алькагольнага ап'яненьня, дадамо ад сябе). Мікалай Лазавік заявіў літаральна наступнае: "Адчуваецца няцьвёрдая рука чалавека, які зь цяжкасьцю трымаў пяро", а пасьля дадаў, што Цэнтравыбаркам спрабаваў знайсьці спадара Скрабца, але дома яго не было і мабільны тэлефон не адказваў.

Ці не тлумачацца ўсе гэтыя факты абарончай рэакцыяй Калугіна ды Скрабца на спробы маніпуляваць іхнімі асобамі?

Гэтых людзей аб'ядноўвае прафэсія — перад намі розныя рукі "гаспадарнікі" і бізнэсоўцы (не выпадкова, што этап рэгістрацыі ініцыятыўных групаў скончыўся шматзначным штрышком, які таксама апынуўся ў цэнтры ўвагі беларускіх СМІ, як электронных, так і друкаваных, — дасылкай па пошце дакумэнтаў для рэгістрацыі малавядомым бізнэсоўцам Аляксандрам Батурам).

Працяг на старонцы 4.

Агляд сярэднеэўрапейскіх падзеяў

# Вугорцы працуюць, альбанцы галасуюць

**Гэтымі днямі чэхі сьвяткавалі дзясятыя ўгодкі заканчэньня савецкай акупацыі.** 21 чэрвеня 1991 г. ад савецкае ваеннае базы ў Мілавіцэ ад'ехаў апошні цягнік з жаўнерамі Цэнтральнае групы войскаў і скончылася 23-гадовае знаходжаньне 140-тысячнага савецкага войска ў Чэхаславаччыне.

**Этнічныя вугорцы ў Румыніі і Славаччыне атрымаюць адмысловыя "пасьведчаньні вугорскасьці",** што дасьць ім права легальна вучыцца й працаваць на абшарах гістарычнае радзімы, задарма карыстацца вугорскімі культурнаасьветнымі ўстановамі й установамі аховы здароўя ды атрымліваць грашовую дапамогу для дзетак, што вучацца на роднай мове.

Усяго на тэрыторыі Румыніі, Славаччыны, Украіны, Сэрбіі й Славеніі жыве 3,5 млн. мадзяраў – у выніку Трыянонскага трактату 1920 г. Бальшыня "замежных вугорцаў" хацела б мець падвойнае грамадзянства або наагул пераехаць на радзіму, таму Будапэшцкі ўрад, каб пазьбегнуць наплыву перасяленцаў, заахвочвае вугорцаў заставацца там, дзе яны жывуць цяпер. А дазвол на працу задаволіць патрэбу краіны ў працоўнай сіле.

Румынія й Славаччына, баючыся пагаршэньня міжэтнічных стасункаў, абвесьцілі, што новы закон ня будзе мець моцы на іхнай тэрыторыі. Дзеяньне закону не распаўсюджваецца й на аўстрыйскіх вугорцаў, бо прынцыпы ЭЗ не дапускаюць аніякае, у тым ліку й "дадатнае" дыскрымінацыі эўрапейскіх грамадзянаў, а дапамога замежным вугорцам якраз і ёсьць гэткай "пазытыўнай дыскрымінацыяй".

**Польшча будзе купляць у Даніі па 2 млрд. кубамэтраў газу штогод.** Гэта забясьпечыць дзьве трацiны польскіх патрэбаў, яшчэ адну здабываюць самі палякі. Дагэтуль 90% газу Польшча купляла ў Расеі. Для ажыцьцяўленьня дамовы трэ будзе збудаваць 230-кілямэтраовы газапровад коштам каля 290 млн. даляраў. Справа гэтая адкрывае новыя далягляды ня толькі Польшчы, але й іншым краінам Сярэдняе Эўропы – размову наконт падаўжэньня газаправоду ўжо мелі прэм'еры Польшчы і Украіны.

**У Альбаніі на гэтую нядзелю прызначаныя парлямэнцкія выбары.** Напярэдадні кіраўнікі альбанскіх паўстанцаў на поўначы Македоніі абвясьцілі перамір'е й выправіліся ў Альбанію падтрымаць апазыцыйную Дэмакратычную партыю колішняга прэзыдэнта Салі Бэрыша. Аднак лёзунгі антыкамуніста Бэрыша, які вінавацiць кіроўных сацыялістаў у карупцыі, выглядаюць слаба на тле дасягненьняў дзейнага ўраду. Апошні шмат зрабіў для ўмацаваньня грамадзкага парадку, дзяржаўных інстытутаў, правоў чалавека і свабоды слова. За гэты час ВУП краіны вырас на 7%, а інфляцыя не перавышала 2%.

**Сяргей Рак**

Македонія

## Разьдзел краіны

**Узровень нацыянальнай сьвядомасьці македонцаў прыкладна адпавядае беларускаму.** Ды нашае грамадзтва шмат больш згуртаванае, чым македонцы – у нас і гаворкі няма аб тым, каб нейкая група запатрабавала выхаду са складу краіны. Македонія ж хутка дакоціцца да таго, што на яе тэрыторыю ўвойдуць міжнародных сілы NATO і краіна будзе падзеленая на этнічныя сэктары. Аргумэнтаў для гэтага ўжо дастаткова — у краіне больш за 35 тысячаў уцекачоў, альбанцы бягуць з македонскага войска, усе мірныя пачынаньні пасьпяхова правальваюцца, а баі ідуць у дзясятку кілямэтраў ад сталіцы.

**С.Р.**

ЗША-Балтыя

## Непрыемныя чуткі

**Перад балтыйскімі краінамі паўстала небясьпека бліжэйшым часам не ўвайсьці ў NATO.** Амэрыканскі Сэнат усё часьцей зьвязвае справу пашырэньня блёку з пабудовай сыстэмы проціракетнай абароны. Каб пачаць яе стварэньне, Буш мусіць атрымаць дазвол Масквы на зьмены ў адпаведнай дамове. Расея ўжо заяўляла, што дазволіць, толькі калі NATO адмовіцца ад далучэньня балтыйскіх краінаў. Тыдзень таму Пуцін на сустрэчы ў Любляне чарговы раз падкрэсьліў, што лічыць пашырэньне NATO прыявай варожасьці.

Буш на той самай сустрэчы абяцаў не гандляваць лёсамі народаў, але ў гэты час Сэнат дэбатаваў, ці можна адкупіцца балтамі за маскоўскую згоду на проціракетніцу.

Сэнатары кажуць, што халодная вайна скончылася і бясьпеку балтам можа гарантаваць той самы Эўразьвяз. Маўляў, ужо паўсталі эўрапейскія сілы хуткага рэагаваньня, а таму хопіць Прыбалтыцы й эўрапейскае аховы. Дый Масква нічога супраць пашырэньня ЭЗ ня мае.

Расея

## Закон для Беларусі

**Расейская Дума вось-вось ухваліць закон "Аб парадку прыняцьця ў РФ і ўтварэньня ў яе складзе новага суб'екта РФ".** Разьлічаны ён, відаць, на Беларусь.

Тым часам у Прымор'і губэрнатарам стаў прадпрымальнік Даркін, а не кандыдат Крамля Апанасенка. Каторы раз ужо Пуцін аказваецца няздольны кантраляваць рэгіёны Расеі. Дарма ж некаторыя думаюць, што Пуцін непадзельна распараджаецца лёсам Беларусі. Не такая ўжо й дужая Масква.

Дзяржсакратар ЗША Паўэл, дарэчы, учора заявіў, што нашыя ўяўленьні пра магутнасьць атамнага патэнцыялу Расеі перабольшаныя і што Расея ня здольная даць адэкватнага адказу на разьвіцьцё амэрыканскай сыстэмы ПРА, бо ня мае на тое фінансавых рэсурсаў.

Літва



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

## Няўдалая раварызацыя

**Экспэрымэнт віленскіх уладаў, якія задарма далі паспалітаму люду ровары, каб перасоўваца ў гадзіны "пік", праваліўся на самым пачатку.** Ён быў урачыста распачаты ў пазатую пятніцу як частка кампаніі па падтрымцы здаровага ладу жыцьця і памяншэньні колькасьці затораў на вуліцах. Яскрава-памаранчавыя ровары былі расстаўленыя ў гістарычных мясьцінах Старога Места і кожны мог імі скарыстацца. Але ўсяго за колькі дзён 300 ровараў скралі (некаторыя ўжо прадаюцца на кірмашах), а яшчэ 100 – зламалі.

Славенія

## Пры жывым бацьку

**У Славеніі абвешчаныя вынікі рэфэрэндуму, згодна зь якімі самотным жанчынам забаронена рабіць штучнае апладненьне —** за гэтую пастанову прагаласавала 72,4% выбарцаў. Праўда, удзел у галасаваньні ўзялі толькі 35,6% насельніцтва. Рэфэрэндум ініцыявалі дэпутаты-кансэрватары, якія цьвердзяць, што дзіцё мае права мець бацьку. Ixныя апанэнты сьведчаць, што трацiна славенскіх сем'яў і так няпоўныя. Дык жанчына мае права мець дзеці, кажуць яны.

Такія праблемы стануць і нас хваляваць, калі Лукашэнка сыдзе.

Новая Зэляндыя

## Вайны ня будзе ніколі

**Новая Зэляндыя зьбіраецца добраахвотна раззброіцца.** Яна адракаецца супрацьпаветранай абароны, зьнішчальнікі пераробіць у транспартныя самалёты, наземныя войскі – у міратворчы кантынгэнт, вайсковыя караблі — у акіянаграфічныя. Гэта першы гэткі выпадак у сьвеце. Не баяцца новазэляндцы нічога, дык і ня бачаць патрэбы ўтрымліваць тое войска.

**Сяргей Радштэйн**




TORONTO SUN



АЛЯКСЕЙ ЧАРНЯЕЎ

# Мабілізацыйная кампанія

Працяг са старонкі 3.

Стала ясна, што вылучэньне такога роду кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта ўжо з пачатку гэтага году — адзін з асноўных элемэнтаў мабілізацыйнай кампаніі Лукашэнкі. (Дарэчы, яна дэманструе структурнае падабенства да фармаваньня кааліцыі дэмакратычных кандыдатаў. Стварэньне пяцёркі прыцягнула да яе ўвагу розных слаёў беларускага грамадзтва — людзі сталага веку цешыліся, што пабачылі ў ёй камуніста Калякіна, вайскоўцаў і міліцыянэраў не пакінуў абыякавым Павал Казлоўскі, сябры Фэдэрацыі прафсаюзаў з энтузіязмам даведаліся пра ўваходжаньне ў пяцёрку Уладзімера Ганчарыка і г.д. Фактычна тое самае рукамі сваіх паліттэхнолягаў зрабіў Лукашэнка, толькі цікавіць яго перадусім беларуская бізнэсэліта, за сельскае і інш. насельніцтва ён спакойны.)

Праз сваіх псэўдаапазыцыйных кандыдатаў Лукашэнка даваў і дае лібэральна настроенай і, як вынік, пакрыўджанай ці расчараванай у дзяржаўнай эканамічнай палітыцы часткі беларускай намэнклятуры знак, што паразуменьне ўсё-такі магчымае, што ў выпадку пераабраньня "бацькі" на другі тэрмін ляяльныя рэжыму прадпрымальнікі зноў атрымаюць пэўныя палёгкі і прэфэрэнцыі.

Верны памагаты Лукашэнкі Аляксандар Зімоўскі ў сваёй праграме "Рэзананс" ад 10 чэрвеня таксама выказаў непакой пра намэнклятуру: "Відавочна адзінае: Беларусі чарговы раз спрабуюць навязаць далёка ня самы лепшы варыянт. Безумоўна, адлучаная ад кармушкі намэнклятура падтрымлівае Домаша з асабістых інтарэсаў". Адзначым стылёвую неахайнасьць Зімоўскага: зь яго словаў вынікае, што *далучаная да кармушкі* намэнклятура беззасьцярожна падтрымае Лукашэнку.

Там, дзе адбываецца торжышча, у ход ідуць і матэрыяльныя аргумэнты. 13 чэрвеня Лукашэнка падпісаў шэраг указаў, якія лібэралізуюць некаторыя сфэры беларускай эканомікі. Указ №313 прадугледжвае вылучэньне падаткавага крэдыту прадпрыемствам радыёэлектроннай ды інш. галін прамысловасьці. Указ №314 устанаўляе гранічныя нарматывы на разьлікі за энэргарэсурсы ў неграшовай форме. Указ №315 пакліканы стымуляваць прамысловую вытворчасьць, дзякуючы таму, што вызначанаму наверсе сьпісу прадпрыемстваў будзе дадзена магчымасьць атрымаць незапланаваныя прыбыткі. Указ №316 "Аб удасканаленьні парадку правядзеньня і кантролю замежнагандлёвых апэрацый" значна палягчае ўмовы замежнагандлёвай дзейнасьці і, у прыватнасьці, лібэралізуе рэжым рэгістрацыі мытняй пашпарту замежнагандлёвае апэрацыі: зараз апэрацыі на суму да 1.500 даляраў ня будуць падлягаць рэгістрацыі (раней — да 200$). Указ №319 вызваляе прадпрыемствы калапэрацыі ад выплаты ў бюджэт падаткаў на даходы, на прыбытак і на дадзеную вартасьць пры бязвыплатнай перадачы ім ува ўласнасьць маёмасьці з рэспубліканскай ці камунальнай уласнасьці. I гэта яшчэ ня поўны пералік...

Другая, ня менш важная прычына такой павышанай увагі да беларускіх бізнэс-колаў з боку Лукашэнкі і яго паліттэхнолягаў тлумачыцца тым, што насельнікі дому на Карла Маркса, 38 імкнуцца зьвесьці на нішто магчымасьць атрыманьня любой падтрымкі беларускімі бізнэс-структурамі кандыдатаў рэальнай беларускай апазыцыі. Разьлік тут досыць просты: тая частка беларускай эканамічнай эліты, якая ня купіцца на перадвыбарныя абяцанкі самога Лукашэнкі, найхутчэй прафінансуе выбарную кампанію "палітычна добранадзейных" — г.зн., Сініцына і Марыніча, але ня Домаша або Калякіна. Для беларускай жа апазыцыі абмежаваньне рэальнай рэсурснай базы непазьбежна будзе азначаць памяншэньне базы падтрымкі на выбарах.

Звышзадача, якая ставіцца Лу-

Музыка

# Рок у атмасфэры інтымнасьці

**18 чэрвеня ў Доме афіцэраў адбыўся канцэрт "Я нарадзіўся тут". У канцэртным выкананьні песьні гучаць зусім іначай, чым на дыску. Мацней спрацоўваюць магнэтычныя індывідуальнасьці Лявона Вольскага, Аляксандра Памідорава ды Зьмітра Вайцюшкевіча. Менш вытанчанасьці, затое больш нэрвовае напружанасьці. Менш сантымэнтаў. Больш сапраўднага року – жорсткага і бескампраміснага.**

Цалкам іначай, чым на дыску, прагучала песьня "Не загаснуць зоркі ў небе". Зьмянілася й абліч-ча славутага Палянэзу. У студыйным запісе панаваў голас Вэранікі Кругловай. У канцэртным выкананьні Вэраніка адышла на другі плян – на карысьць Зьмітра Вайцюшкевіча. Палянэз адразу ж пацяплеў, набыў болей душэўнасьці ды мужнасьці.

Аднак сп.Суша – аўтар праекту й арганізатар імпрэзы – асобна падзякаваў менавіта Вэраніцы за тое, што "выратавала канцэрт".

Між сцэнай і заляй увесь час захоўвалася нейкая дыстанцыя. Звонку ўсё выглядала як належыць: публіка пляскала ў далоні, спрабавала танчыць ды падпяваць, гукала "Жыве Беларусь!". Але ёй не ставала ўпэўненасьці. Людзі нібыта ўвесь час аглядаліся па баках і абмяркоўвалі, што ім можна рабіць, а чаго нельга. Не ставала спантаннасьці, якая ператварае натоўп у адзіны магутны арганізм. Гэткая спантаннасьць магчымая толькі на стадыёне. Альбо на мітынгу. І немагчымая ў Доме афіцэраў, дзе паветра прасякнутае афіцыйнай культурай і парфумамі афіцэрскіх жанок.

Аматараў беларускага року пакуль замала, каб запоўніць цэлы стадыён. Музыка, разьлічаная на дзясяткі тысячаў энтузіястаў, існуе ў атмасфэры інтымнасьці. І на вуліцы, на плошчу, на стадыён яна вырвецца толькі ў тым выпадку, калі туды выйдуць людзі, дзеля якіх яна прызначаная.

**Юлія Андрэева**

# Новая опэра Картэса

**Пазаўчора цікаўныя маглі паслухаць новую опэру Сяргея Картэса паводле апавяданьня Антона Чэхава "Юбілей". Гэта яшчэ не прэм'ера – яна адбудзецца 11 ліпеня на фэстывалі ў Салятурне (Швайцарыя).**

Пакуль што быў толькі генэральны прагон – амаль без дэкарацыяў ды ў вопратцы, пазычанай з старых спэктакляў. Музыка опэры мо ня дужа запамінальная, але прафэсійна зробленая й вельмі тэатральная.

Уражвае ігра чатырох актораў – Тацяны Трацяк, Эдуарда Пелагейчанкі, Алега Мельнікава, а найбольш – Наталі Рудневай у ролі Мірчуткінай. Прыгожыя галасы, яскравыя акторскія індывідуальнасьці...

Кароткая – усяго 55 хвілінаў – опэра цікава слухаецца. Картэс і ягоны лібрэтыст Віктар Халіп заўжды былі майстрамі тэатральнае інтрыгі. Вонкава немудрагелісты сюжэт з традыцыйнай чэхаўскай пагардай да кабетаў нібы й далёкі ад сучаснага беларускага жыцьця, аднак за ім хаваецца мудрая думка: усе мы – дзеці, і менавіта нашая дзіцячасьць замінае нам падманваць сябе і людзей.

**Ю.А.**

# На "Басовішча"

**На "Басовішча" сёлета паедуць "БН" (Бяроза), "Бан Жвірба" (Гомель), "Імпэт" (Менск), "Цмокі" (Менск), "Голая Манашка" (Менск), праект "Splenetic"+Алесь Таболіч (Менск), "Aquamorta" (Менск), "Зьніч" (Менск), "Happy Face" (Маладэчна), "Galina Bezu" (Менск). Такія вынікі адборачнага туру, што адбыўся на мінулым тыдні.**

**С.М.**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Прыватнасьці

# Думкі з лукашысцкага войска

**Войска! Ці ня праўда, гучыць гэта моцна? У кожнай краіне ёсьць войска ці нешта падобнае.** Ёсьць яно і ў нас, але ў адрозьненьне ад іншых, яно ў нас не патрыятычнае. Скажу шчыра, у маёй роце, за выключэньнем мяне й некаторых "так сабе патрыётаў", адносіны да Беларусі і да такой высакароднай праявы як патрыятызм, адмоўныя.

На пытаньне "За каго ты будзеш галасаваць на выбарах?" яны адказваюць ці то за Лукашэнку, ці то за нікога. Яны ня могуць уцяміць, што галасуючы ні за кога, яны аддаюць свае галасы за таго ж Лукашэнку.

У такім войску патрыятызму не навучаць, няма ніякай такой працы з жаўнерамі. Усім усё "паралельна". Тутака галоўнае, каб жаўнер умеў трымаць рыдлёўку, а ўсё астатняе... Але прыйдзе наш час, і будзе наша сапраўднае нацыянальнае войска!

Жыве Беларусь! Жыве вечна!

**Нівас Радзіміч, Нясьвіж**

# Адзін у атачэньні "мэрсэдэсаў"

**Ён стаяў, апусьціўшы ў нейкім роздуме-забыцьці галаву, запрэжаны ў павозку на гумавых колах. Адзін на ўсю шырокую кірмашную плошчу, шчыльна застаўленую "мэрсэдэсамі", "вольва", "аўдзі", "БМВ", "жыгулямі"...**

Раней гаспадар-селянін, прыяжджаючы ў Слуцак на кірмаш, распрагаў каня, падкладаў яму добры ахапак мурожнага сена, а тады ўжо ішоў да гандлёвых паліц. Цяпер да каня павагі няма. Глядзеў я на гэтага адзінокага сіўку – і душа мая сьціскалася ад жалю. Па ўсім было відаць, што дагледаюць каня, абы толькі ногі перастаўляў. Цікаўлюся ў двух мардатых мужчынаў, што гаманілі ля адкрытага багажніку "мэрсэдэсу", чый гэта конь.

– Конь калхозны, – адказаў адзін зь іх. – У гаспадара такіх дахадзягаў няма.

Я згадаў, як вясной 1942 г., калі распусьцілі калгас і падзялілі зямлю, вяскоўцы атрымалі зь пятнаццаць такіх, як гэты, коней-дахадзягаў, з ранамі-пісягамі ад удараў абыякавых калгасных паганятых. Прыпала на два двары па адным сіўку, трымалі на чарзе: месяц – у адным двары, месяц – у другім. Селянін з павагай і любоўю глядзеў на каня, ад якога залежала, ці будзе ўпару засеяная зямля. Акругліліся ў коней бакі, зажылі раны-пісягі. Пасьля лепшых пазабіралі немцы, а на тых, што ацалелі, сяляне абраблялі свае дзялянкі, бо трэ было і сям'ю карміць, і партызанаў, якія штоноч прыходзілі, дый нарыхтоўку па старадаўніх квітках здаваць, бо за невыкананьне акупацыйныя ўлады страшылі сьмерцю. У 44-м вярнулася Чырвоная армія і тых коней зноў забралі ў калгас.

Сёньня сродкі масавай інфармацыі гавораць і пішуць аб рэформе калгасна-саўгаснай сыстэмы, якая забуксавала ў новых эканамічных умовах. Днямі нават лукашэнкаўскі праект такой рэформы абнародавалі. Аднак у ім ні слова аб вяртаньні зямлі дбайнаму гаспадару-ўласьніку, свабоднаму ад нізавых і "вэртыкальных" паганятых. І той з аблезлымі бакамі худы конь на базарнай плошчы – жывое сьведчаньне забуксоўскі гэтай сыстэмы.

**Міхась Тычына, Слуцак**

# Лукашэнкі скіраваная на бізнэс-колы

кашэнкам перад гэткага роду "мабілізацыйнай кампаніяй", фактычна палягае ў кансалідацыі "ў часіну вырашальнай бітвы" тых беларускіх элітаў (і лібэральна, і па-рэваншысцку настроеных), якія дагэтуль успрымаюць незалежнае беларускае грамадзтва і культываваньня ім вартасьці як пагрозу сваім жыцьцёва важным інтарэсам.

Трук з разьдзіманьнем пагрозы "прават рэваншу" з катастрафічнымі наступствамі яго для краіны быў упершыню з посьпехам апрабаваны Лукашэнкам яшчэ падчас выбарнай кампаніі 1994 г., калі яму без асаблівага клопату ўдалося перацягнуць на свой бок такіх цьвяроза думаючых палітыкаў, як Віктар Ганчар або Міхаіл Чыгір, а таксама наконадні абодвух рэфэрэндумаў, якім папярэднічала адносная эканамічная лібэралізацыя.

Каб адцягнуць увагу занадта настырных назіральнікаў да "ценявых" бакоў выбарчай кампаніі Лукашэнкі, яго паліттэхнолягі апошнім часам актыўна стваралі штучныя інфармацыйныя "повады" вакол выгадных ім кандыдатаў, разьлічаныя перадусім на апазыцыйныя СМІ.

15 чэрвеня Радыё Свабода агучыла інфармацыю "даверанай асобы" Наталі Машэравай Юр'я Марозава пра тое, што найвышэйшае кіраўніцтва Беларусі (во гэтак, неканкрэтызавана) нечакана прапанавала Наталі Машэравай пасаду віцэ-прэм'ера, куратара сацыяльных праблемаў — пры ўмове, што яна ня будзе ўдзельнічаць у выбарчай гонцы. Але Машэрава, маўляў, адмовілася ад гэткай прапановы. У той жа дзень гэтую інфармацыю растыражавалі расійскія СМІ.

Такая падача інфармацыі ўбівае ў сьвядомасьць беларускіх грамадзян адразу некалькі ілюзорных ідэяў: па-першае, што Машэрава — галоўны канкурэнт Лукашэнкі на выбарах, па-другое, што яна гатовая ісьці на незьлічоныя ахвяры, каб вырваць перамогу. Любога адукаванага чалавека ня трэба асаблiва пераконваць у адваротным.

Цікава, што ў расійскіх мэдыях Машэрава часам фігуруе ў пары зь Сяргеем Антончыкам. Нядаўна Інтэрнэт-часопіс шавіністычна настроеных расійскіх эўразійцаў *www.e-journal.ru* надрукаваў паведамленьне "Дэпартамэнту інфармацыі пастаяннага камітэту саюзнай дзяржавы" "Лідэр "рабочай самадапамогі" і дачка экскіраўніка (sic!) Рэспублікі заяўляюць пра намер змагацца за пасаду прэзыдэнта". Не абыходзіць "нацыянал-радыкала" Антончыка інфармацыйнай падтрымкай і тая самая *"Советская Белоруссия"* (гл. артыкул Мікалая Бусьнюка ў №149 за 01.06.2001 "Як мы зь Сяргеем Антончыкам раздавалі прадукты людзям").

І нарэшце некалькі словаў пра рэгістрацыю ініцыятыўнай групы Зянона Пазьняка (які для расійскіх мэдыяў зноў стаў "галоўным беларускім апазыцыянэрам"). Пазьняк ніколі не хаваў сваёй амбіцыі ў другі раз балятавацца на прэзыдэнта. Так, яшчэ 18 лютага ў Менску адбылася "соймавая канфэрэнцыя" КХП-БНФ, якая зьвярнулася з заклікам да Зянона выставіць сваю кандыдатуру. 22 лютага Пазьняк даў згоду стаць кандыдатам ад "Вызвольнага руху". Але аднаго Пазьняковага жаданьня было відавочна мала; тая мяжуючая з фарсам, лёгкасьць, зь якой была зарэгістраваная яго ініцыятыўная група, сьведчыць, што гэтая пастанова была падрыхтаваная загадзя, што Лукашэнка і яго дарадцы старанна ўзважылі ўсе плюсы і мінусы ўдзелу Пазьняка ў выбарнай гонцы і прыйшлі да высновы, што гэта, безумоўна, пойдзе ім на карысьць.

Рэгістрацыя Пазьняка, якая адбылася ўжо пасьля таго, як партыя БНФ і саюзныя ёй арганізацыі прынялі рашэньне падтрымаць Сямёна Домаша на этапе збору подпісаў, і паказвае аналітычны патэнцыял лукашэнкаўскіх паліттэхнолягаў: яны настаялі на тым, каб выкінуць у сьметніцу разгляданы ўсур'ёз яшчэ некалькі год таму "забараняльны" сцэнар выбарнай кампаніі (з рэпрэсіямі і перасьледам рэальна апазыцыйных кандыдатаў, што толькі дадало б ім прывабнасьці ў вачах беларускага грамадзтва) і сканцэнтравацца на найважнейшай стратэгічнай задачы: дэзінтэграцыі і разбурэньні беларускай нацыянальнай апазыцыі як такой, а таксама "давядзеньне да палітычнай сьмерці" яе ключавых палітыкаў. І першае, і другое стане магчымым у тым выпадку, калі па выніках выбараў Зянон Пазьняк атрымае перамогу над кансалідаваным кандыдатам ад дэмакратычнай пяцёркі (ужо цяпер з рэгіёнаў прыходзіць інфармацыя, што пэўная частка актывістаў партыі БНФ (Вячоркі) далучылася да групаў падтрымкі Пазьняка, а ня Домаша). Палітычныя наступствы рэалізацыі такога сцэнару разьвіцьця падзеяў, натуральна, непрадказальныя, але можна меркаваць, што эфэкт па сваёй сіле можа быць ня меншы, як пасьля сумна вядомых "альтэрнатыўных прэзыдэнцкіх выбараў", праведзеных Віктарам Ганчаром. Нагадаем, што ў выніку гэтай гучнай акцыі перажыла кардынальную ломку існуючая на Беларусі сыстэма апазыцыі — зьмяніліся яе лідэры, арганізацыйныя прадстаўніцтвы, мэтады дзейнасьці. У тым выпадку, калі Домаш на гэтых выбарах набярэ менш галасоў за Пазьняка, можа ўзьнікнуць пытаньне пра сэнс існаваньня цяперашняе аб'яднанае апазыцыі.

З рэгістрацыяй Пазьняка Лукашэнкаўцы ўсутыч наблізіліся да вырашэньня яшчэ адной важнай задачы — легітымізацыі ў вачах міжнароднай супольнасьці восеньскіх прэзыдэнцкіх выбараў. У выпадку прыезду Зянона на Беларусь і бесьперашкоднага правядзеньня ім выбарнай кампаніі пад сумнеў будзе пастаўлена і ўся беларуская палітычная эміграцыя апошніх сямёх гадоў, асабліва ў краіны Сярэдняй Эўропы, урады якіх зазвычай апэрыбылым беларусам статус палітычных уцекачоў.

Любое ж аслабленьне блёку незалежніцкіх сілаў можа пакласьці пачатак размовам аб неабходнасьці стварэньня "шырокай дэмакратычнай" кааліцыі. Ня выключана, што ўдзельнікі такой псэўдадэмакратычнай кааліцыі для большай эфэктыўнасьці вырашаць адмовіцца ад такіх "дробязяў", як *"умирающий белорусский язык"* і падобных "нацыяналістычных" атрыбутаў. Юры Дракахруст бездакорна засьведчыў такія настроі беларускіх лібэралаў яшчэ пару гадоў таму ў нарысе *"Трансформация партийной системы в Беларуси"* (*"Белоруссия и Россия: общества и государства"*, Москва, 1998, суаўтары Г.Дракахруст і Дз.Фурман): *"белорусским либералам-космополитам сейчас немного жалко умирающий язык и немного стыдно"*. Ці трэба дадаваць, што здацца на ласку кааліцыі Сініцына, Машэравай, Абрамавай і Пашкевіча палічыў бы за гонар і сам Лукашэнка?

# Адвечная песьня

Працяг са старонкі 1.

Маючы ўсё гэта на ўвазе, зьвернемся да працэсаў, якія адбываліся ў канцы 40-х у беларускіх асяродках Францыі. У той час Парыж робіцца цэнтрам "бэзнэраўскай", альбо "крывіцкай" плыні беларускага нацыянальнага руху. Менавіта тут была падрыхтаваная "Дэклярацыя Рады БНР", якая паведаміла сьвету пра аднаўленьне дзейнасьці дзяржаўнага прадстаўніцтва незалежнай Беларусі ў выгнаньні. Дэклярацыя была апублікаваная ў газэце "Бацькаўшчына", якая выдавалася ў лягеры для перамешчаных асобаў Астэргофэн (Ніжняя Бавария), пад фікцыйнай датай 29 сьнежня 1947 г. Гэта дасёньня ўводзіць у зман гісторыкаў з КГБ, якія лічаць, што Рада БНР адрадзілася ў Астэргофэне ў сьнежні 1947 г. (як А.Салаўёў у кніжцы "Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах" (Мн, 1995). Ад 1931 г. у Парыжы дзейнічала найстарэйшая сёньня ў сьвеце беларуская эміграцкая арганізацыя "Хаўрус беларусаў у Францыі", існаваў адзіны на эміграцыі беларускі прафсаюз "Аб'яднаньне беларускіх работнікаў у Францыі", выдавалася першая на Захадзе паваенная беларуская газэта "Беларускія Навіны" і першы легальны друкаваны часопіс "Божым Шляхам", тут жылі й працавалі Мікола Абрамчык, Лявон Рыдлеўскі, Уладзімер Шыманец, айцец Леў Гарошка — "мазгавы цэнтар" адноўленай Рады. Мэтаю адноўленай Рады БНР было стварэньне паўнавартаснага "беларускага ўраду ў выгнаньні", прызнанага краінамі Заходняга Сьвету. Аднак, каб дасягнуць гэтага, кіраўніцтва Рады мусіла прадэманстраваць, што за ім стаяць сапраўды значныя сілы як на эміграцыі, так і ў Савецкай Беларусі.

Што да працы Рады БНР сярод удзельнікаў антысавецкага падпольля й партызанскага руху ў паваеннай БССР, то гэтая тэма яшчэ патрабуе адмысловага вывучэньня і выходзіць за межы разгляданай тут праблематыкі. Таму спыняцца на гэтым я ня буду, а толькі адзначу: выглядае на тое, што ўсё ж такі большасьць удзельнікаў антысавецкага беларускага супраціву канца 40-х — пачатку 50-х была прыхільная хутчэй да БЦР, чым да БНР. Сярод эміграцыі Рада БНР магла разьлічваць на падтрымку пераважнай большасьці беларускай грамады ў Францыі й Бэльгіі, Беларускага Нацыянальнага Камітэту Амэрыканскай акупацыйнай зоны ў Нямеччыне, Беларускага Цэнтральнага Дапамогавага Камітэту Нямеччыны, Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі, гіерархаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, сьвятароў-каталікоў і ўніятаў, ангажаваных у беларускі рух. Гэта была толькі частка эміграцыі. У гэткіх умовах узьнікла ідэя стварэньня Сусьветнага Аб'яднаньня Беларускае Эміграцыі (САБЭ), якое мусіла б публічна падтрымліваць дзейнасьць Рады ад імя ўсёй эміграцыі і забясьпечваць яе легітымнасьць у вачах заходніх хаўрусьнікаў, а таксама кіраваць палітычнай і культурнай працай "бэзнэраўскіх" арганізацыяў ува ўсіх краінах сьвету і кантраляваць ападаткаваньне гэтых арганізацыяў "на патрэбы нацыянальнага руху".

САБЭ было заснаванае рашэньнем Першага сусьветнага зьезду беларускае эміграцыі, які адбыўся ў Парыжы 28 лістапада — 2 сьнежня 1948 г. Дэлегаты зьезду, зьвяртаючыся "да беларусаў і беларусак ува ўсім сьвеце", заклікалі іх "гуртавацца пад родным сьцягам Беларускае Народнае Рэспублікі, якая цераз Раду БНР, Прэзыдэнта Рэспублікі інж.М.Абрамчыка і Ўрад БНР зьяўляецца безпасярэднім злучвом з прыгожымі традыцыямі нашага вызвольнага змаганьня, яго найвышэйшым дасюль здабыткам і адзінай для нас надзеяй і гарантыяй павароту на вольную Беларускую Зямлю!" Сярод пунктаў рэзалюцыі зьезду найбольшае практычнае значэньне мелі наступныя: "3. Старацца стварыць сталыя матэрыяльныя базы для беларускай грамадзкай працы, выкарыстоўваючы для гэтага мясцовыя ўмовы й магчымасьці. 4. Стварыць адзінае ўсебеларускае кіраўніцтва ўсёй беларускай работы на эміграцыі і ўсестаронньняй апекі над беларускімі эмігрантамі ўва ўсіх краінах, дзе б яны ні былі, з прадстаўніцтвамі ад усебеларускага кіраўніцтва". Той факт, што з 22-х дэлегатаў зьезду 9 прадстаўлялі Францыю, 4 — Вялікую Брытанію, 2 – Нямеччыну і яшчэ з 7 краінаў (Бэльгія, Данія, Швэцыя, Італія, Канада, Аргентына, Аўстралія) прыехалі па адным чалавеку, красамоўна сьведчыць пра ступень уплыву тагачаснай беларускай дыяспары ў Францыі на ўсю "бэзнэраўскую" эміграцыю. Ня дзіўна, што старшынём Ураду Сусьветнага Аб'яднаньня Беларускае Эміграцыі быў абраны лідэр Аб'яднаньня беларускіх работнікаў у Францыі Лявон Рыдлеўскі. Дарэчы, ён быў вэтэранам францускага Рэзыстансу й пяць



Удзельнікі Канфэрэнцыі эўрапейскіх сэктараў Рады БНР у садзе Беларускай бібліятэкі й музэю імя Ф.Скарыны ў Лёндане. У першым шэрагу зьлева направа: А.Лашук, біскуп Ч.Сіповіч, д-р Р.Жук-Грышкевіч, д-р В.Жук-Грышкевіч, Ул.Бортнік, Л.Шыманец. Красавік, 1979.

гадоў (1940—1945) правёў у "макі", г.зн. у партызанах, што мелася забясьпечыць прыхільнае стаўленьне да наваўтворанай арганізацыі з боку нядаўніх пераможцаў нацызму. Адным з заступнікаў старшыні і адначасова фінансавым рэфэрэнтам САБЭ быў прызначаны міністар фінансаў БНР Уладзімер Шыманец. Сядзіба Аб'яднаньня месьцілася, натуральна, у Парыжы, дзе ўжо функцыянавала "Гаспода" Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка.

Здавалася, былі створаныя ўсе перадумовы для гуртаваньня пад супольным кіраўніцтвам беларусаў на эміграцыі, прынамсі, тых, хто прытрымліваўся пэўнага палітычнага напрамку. Каб гэта тады адбылося, без усялякага сумненьня, цалкам выканальнымі былі б наступныя, вельмі пэрспэктыўныя пункты рэзалюцыі зьезду: "...2. Зьвязаць і здысцыплінаваць грамадзкія актывы ... так, каб праца вялася рацыянальна, плянава і сыстэматычна безь ніякіх перарываў. ... 5. Сканцэнтраваць і скаардынаваць усе высілкі ў справе беларускай прэсы і выдавецтва наогул. 6. Стварыць Цэнтральную Беларускую Інфармацыйную Службу і архіў дакумантаў. 7. Правесьці рэгістрацыю беларускіх эмігрантаў ува ўсіх краінах. ... 11. Узмоцніць высілкі дзеля павелічэньня колькасьці студыюючых беларусаў з мэтай запэўненьня росту кадраў беларускай інтэлігэнцыі і арганізацыі беларускіх школаў і навуковых установаў. ... 14. Стварыць цэнтралю беларускіх камбатантаў-вайскавікоў у сусьветным значэньні дзеля кансалідаваньня і каардынаваньня іх арганізацыйнай работы" ды інш. Увасабленьне гэтых плянаў у жыцьцё дало б магчымасьць беларускай эміграцыі, прынамсі, "на роўных" пачувацца сярод эміграцыйных асяродкаў іншых народаў, што патрапілі пад савецкую акупацыю і, як і беларусы, спадзяваліся на падтрымку й дапамогу краінаў Вольнага Сьвету.

Аднак, напачатку, як сьведчаць дакумэнты, якія мне пашчасьціла выявіць у архіўным зборы Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду ў Парыжы, трэ было скаардынаваць дзейнасьць беларускіх арганізацыяў у самім сэрцы руху — у Францыі. Вядзецца пра пратаколы паседжаньняў Каардынацыйнага камітэту беларускіх арганізацыяў у Францыі, першы зь якіх датаваны 27 лютага 1949 г., апошні (пяты) — 16 ліпеня 1950 г. (пратакол №4 адсутнічае). Першапачаткова ў камітэт увайшлі толькі дзьве галоўныя арганізацыі: Хаўрус беларусаў у Францыі на чале зь Міколам Абрамчыкам і Аб'яднаньне беларускіх работнікаў Лявона Рыдлеўскага. На другім паседжаньні ягоны склад папоўнілі яшчэ 6 арганізацыяў, "якія стаяць на грунце БНР і якія маюць самастойны статут ці рэгуляміны"[2]: Беларускі выдавецкі фонд (старшыня — Уладзімер Шыманец), Аб'яднаньне беларускіх жанчын (старшыня — Ніна Абрамчык), Беларуская незалежніцкая арганізацыя моладзі (старшыня — Янка Філістовіч), Згуртаваньне беларускіх студэнтаў (старшыня — Міхась Навумовіч), Зьвяз Беларускіх скаўтаў (старшыня – той самы Навумовіч) і Беларуская каталіцкая місія (рэктар — а.Леў Гарошка). Пры гэтым, наколькі мне вядома, зь іх рэальна, а не на паперы, існавала толькі БНАМ Філістовіча дый каталіцкая місія, якая складалася з аднаго айца Лява й займалася ўласьцівай для яе справай рэлігійнага душпастырства. Але колькасьць арганізацыяў была тут справай прынцыповай, бо камітэт пастанавіў, "што кожная Арганізацыя павінна плаціць 10% сваіх складак на карысьць САБЭ"[3].

Аналіз названых пратаколаў дазваляе меркаваць, што менавіта фінансавыя пытаньні былі галоўнай тэмай на паседжаньнях Каардынацыйнага Камітэту. На трэцім



Першы Сусьветны зьезд беларускай эміграцыі. Зьлева направа: Ул.Шыманец, В.Жук-Грышкевіч, Ул.Тамашчык, Я.Сурвіла. Парыж, лістапад, 1948.

паседжаньні Ўладзімер Шыманец абвясьціў, што "кожны Беларус, які прызнае сувэрэнітэт БНР, павінен самаападаткавацца, купляючы маркі БНР"[4]. Пратакол пятага паседжаньня прыводжу тут цалкам, бо стаўся ён апошнім тагачасным сьведчаньнем аб'яднаўчых памкненьняў нашых палітэмігрантаў у Францыі (наступны дакумэнт за подпісам "Каардынацыйны Камітэт", які знаходзіцца ў той самай тэчцы, адносіцца ўжо да 1966 г.) і менавіта ў ім, на маю думку, хаваецца ключ да разуменьня прычынаў няўдачы гэтых памкненьняў:

Пратакол № 5.

Паседжаньня Каардынацыйнага Камітэту з дня 16.7.50.

Прысутнічалі:

Інж. Рыдлеўскі Лявон, а.Гарошка Леў, сп.Шыманец Уладзімер, сп.Навумовіч Міхась, сп.Міцкевіч Аляксандар і Лысуха Мікола.

Парадак дня.

1) Справа Фонду 25 Сакавіка.

2) Вольныя прапановы.

Старшынёю паседжаньня быў выбраны а.Гарошка Леў.

Адн. п. 1.

Слова заняў сп.Шыманец, які накрэсьліў гісторыю нашай эміграцыі, пры гэтым заценіў[,] што дзеяньне эміграцыі ёсьць разьбітае і ня ёсьць скаардынаванае. Прычым[,] як бы мы ні хацелі дагадзіць розным групоўкам, якія выдзяляюцца ў нас, трэба прыняць агульны плян. Калі б у нас былі зарганізаваны добрыя фінансы, мы маглі б лёгка зарганізаваць прэсу і t.d. На жаль[,] да гэтага часу кожная краіна дзеяла на свой лад.

У сувязі з гэтым, у газэце ["]Бацькаўшчына["] быў артыкул, які заклікаў нашае грамадзянства ўліцца ў адну паласьць[,] каб дагнаць іншыя нацыі, якія стаяць шмат вышэй[,] як Беларусы. З гэтае прычыны паўстала арганізацыя С.А.Б.Э.[,] каб каардынаваць працу розных арганізацыяў, якія параскіданы па ўсім дэмакратычным сьвеце.

Аднак[,] Урад Б.Н.Р. выдаў дэкрэт у справе Фонду 25 Сакавіка — вольныя складкі. Пры гэтым [ён] перадаў гэтую справу для выкананьня С.А.Б.Э.[,] якая можа затрымаць 25% з даходу. Маркі былі выданы[,] і абавязкова трэба прыступіць да данай акцыі, якая з[ь]яўляецца неабходнай.

Была разгледжана як, і якімі мэтадамі трэба прыступаць да беларусаў, усьведамляючы што гэтыя грошы зьбіраюцца на дзейнасьць ворганаў Б.Н.Р.

Гэтым [для] прадажу марак на Францыю быў выбран сп.Міцкевіч Аляксандар.

Сп.Шыманец зачытаў пастанову фінансавага агэнта С.А.Б.Э.

Пастаноўлена склікаць агульны сход арганізацыяў у Францыі, на парадку дня будзе: "Фонд 25 Сакавіка".

Зборка адбудзецца 23.7.50.

На гэтым паседжаньне закончана.

Старшыня

Сакратар

паседжаньня

[Подпіс: Лысуха]

[Подпісу няма][5]

Невядома, ці адбылася зборка 23 ліпеня 1950 г., аднак САБЭ ціхутка спыніла сваё існаваньне неўзабаве пасьля нараджэньня, так і не выканаўшы ніводнага пункту рэзалюцыі Першага сусьветнага зьезду беларускай эміграцыі; сам гэты зьезд застаўся першым і апошнім у гісторыі нашай дыяспары; Рада БНР за наступныя 40 гадоў так і ня здолела разгарнуць дзейнасьць у маштабе, які плянаваўся ў момант яе адраджэньня... Усё гэта сьведчыць, што галоўнай

праблемай, зь якою сутыкнулася кіраўніцтва беларускай палітычнай эміграцыі "бэнээраўскага" напрамку ў канцы 40-х — пачатку 50-х, сталася немагчымасьць мабілізацыі сродкаў эмігрантаў-беларусаў у памерах, неабходных для належнай рэпрэзэнтацыі Беларусі ў вачах патэнцыйных хаўрусьнікаў на Захадзе. Нежаданьне большасьці "простых людзей" са шматтысячнай эўрапейскай беларускай дыяспары выдаткоўваць сродкі на ўтрыманьне сваіх палітычных і культурніцкіх інстытутаў сталася адной з галоўных прычынаў глыбокага крызысу беларускага эміграцыйнага жыцьця ў Эўропе (апрача, хіба, Вялікай Брытаніі), які быў пераадолены толькі беларускай эміграцыяй у Паўночнай Амэрыцы. Няўдалая спроба аб'яднаць намаганьні беларускіх арганізацыяў у Францыі, каб вырашыць супольныя праблемы дыяспары, была адной зь першых прыкметаў набліжэньня гэтага крызысу.

Беларус, як бачым, і ў Францыі застаецца беларусам. Заўсёдная гатоўнасьць да гуртаваньня пад патрыятычнымі лёзунгамі на словах і заўсёдная няздольнасьць выдаткоўваць на ўцялесьненьне гэтых лёзунгаў свае сілы, час і, асабліва, сродкі. І няма ў гэтым ні "савецкасьці", ні "калхознасьці" — адно "адвечная песьня" непалітычнага люду, праз моц абставінаў уцягнутага ў палітычны вір...

[1] Запруднік Я. Уводнае слова // З гісторыяй на "Вы". Вып.3. — Мн., 1994. — С.6-7.

[2] Пратакол №2 паседжаньня Каардынацыйнага Камітэту з дня 11.9.1949 // Архіў Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду ў Францыі.

[3] Пратакол №2 паседжаньня Каардынацыйнага Камітэту з дня 11.9.1949 // Архіў Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду ў Францыі.

[4] Пратакол №3 паседжаньня Каардынацыйнага Камітэту з дня 25.1.1950 // Архіў Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду ў Францыі.

[5] Пратакол №5 паседжаньня Каардынацыйнага Камітэту з дня 16.7.1950 // Архіў Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду ў Францыі. Рукапіс, аўтограф М. Лысухі, друкуецца ўпершыню.

**БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ**

# Краіна ўнівэрсытэтаў і акадэміяў

Яшчэ 100 год таму, у 2000-м, тэсты нязьменна выяўлялі ў беларусаў высокі каэфіцыент інтэлекту. Таму з часам беларусы вымушаныя былі адмовіцца ад усякай вытворчасьці, наўпрост не зьвязанай з навучальным працэсам, бо амаль усё працаздольнае насельніцтва — блізу 13 млн. — занятае ў галіне адукацыі.

Беларусы зрабілася нацыяй выхавальнікаў, настаўнікаў, рознага кшталту гуру, прафэсараў і акадэмікаў. Прыродная мяккасьць характару, прага да ведаў і паважлівае стаўленьне да іншых народаў трансфармаваліся ў непараўнальную здольнасьць выхоўваць і навучаць.

Вялізную ролю ў гэтым адыграла колішняя, ужо амаль забытая, катастрофа на ЧАЭС. Пільная ўвага да экалёгіі, ашчаднае стаўленьне да скарбаў прыроды, ліквідацыя шкодных вытворчасьцяў стварылі ў Беларусі аптымальныя ўмовы для разьвіцьця чалавечага інтэлекту.

Сёньня беларус ня здольны ні на якую шкоду прыродзе. Прыкладам, зуброў разьвялося гэтульні, што ўжо даводзіцца частку іх стэрылізаваць. Даўно зьліквідаваныя наступствы бязглуздай мэліярацыі. На Палесьсі зноў разьлегліся балаты, вяртаюцца раней зьніклыя жывёлы й расьліны.

Акрамя таго, на Беларусі яшчэ ў 20-я гг. XXI ст. выявілі цудоўнае выпраменьваньне зь нетраў зямлі. Яно ўплывае на дзейнасьць мозгу, стымулюючы запамінальныя цэнтры і зрокавую памяць. Унівэрсытэцкія цэнтры Беларусі літаральна захлынаюцца ад замежнікаў, ахвотных атрымаць высакаякасную адукацыю з пэўнай палёгкаю для ўласных здольнасьцяў у знакамітых беларускіх унівэрсытэтах — Нясьвіскім ды Віленскім, Фанiпальскім ды Заслаўскім, Сьмілавіцкім...

Людзі ва ўсім сьвеце лічаць за шчасьце мець за выхаваццеля сваіх дзяцей беларуса. Абыходзіцца гэта нятанна, дый у чаргу трэба запісвацца яшчэ да нараджэньня дзіцяці!

Ужо год дзесяць, як беларускія музычныя тэатры і гурты розных плыняў літаральна акупавалі тэле-, net- і іншыя каналы й пляцоўкі. Беларускамоўныя рэміксы "Бітлз" пачалі выцясьняць арыгінальнае выкананьне. Таму суседнія краіны ўводзяць абмежаваньні на працягласьць гучаньня ў этэры беларускай музыкі, каб хоць неяк абараніць сваё музычнае мастацтва.

Беларускія школы жывапісу, мастацтва, філязофіі і экалёгіі XXI ст. таксама ня маюць роўных. Гэта захапляе навукоўцаў зь іншых краінаў.

Пачынаецца беларускі век у гісторыі чалавецтва.

Беларускі час у гісторыі працягваецца.

**Раман Станкевіч**

## Новы праект "Нашае Нівы"



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якой будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Штотыдня — фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў рубрыцы "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

# Наша Ніва 90 гадоў таму

**Вільня.** 5 чэрвеня стараньнем "Беларускага Музычна-Драматычнага Кружка" ўстроена была маёўка. З ваеннай музыкай на чоўнах адправіліся па Вяльлі за горад і сярод гор у лесе дапозна танцавалі і пяялі хорам беларускія песьні, гулялі хароводныя танцы і інш.

**Загацьце, Лепельскі пав.** Наша мястэчка саўсім маленькае і, хоць кругом жывуць беларусы, але гэтыя беларусы такія цёмныя, што ня ведаюць нават, хто яны такія. Вось гэтак сама ўсякі дзікі народ ня мае нацыянальнай сьвядомасьці, але беларусы тутэйшыя — гэта ня дзікі народ, не людаеды якія, толькі народ так забіты доўгай няволяй ды панаваньнем іншых нацыяў, што ў іх загубілася саўсім пачуцьцё патрыятызму, гэта значыць, — любві і пашаны ўсяго, вытваранага вякамі, свайго роднага. Тутэйшаму чалавеку здаецца, што ўсё, што сваё, беларускае, гэта кепскае, а што чужое — лепшае. І, не навучыўшыся нічога добрага чужога, забываюць сваё і застаецца пустата нейкая, каторую кожны чуе, а запоўніць чым, ня ведае.

**Мікіта Д.**

**9 чэрвеня 1911 г., №23**

**Аглядны артыкул Юліі Андрэевай "Караоке па-беларуску", прысьвечаны вечарыне памяці кампазытара Ігара Паліводы, выклікаў бурную рэакцыю чытачоў (што сьведчыць перадусім пра значнасьць постаці Паліводы-кампазытара), дыскусія выйшла за межы абмеркаваньня ягоных творчых ды жыцьцёвых варункаў і асягнула шырачэзны спэктар пытаньняў – ад журналісцкае этыкі да вызначэньня крытэраў геніяльнасьці. Гэтая дыскусія ляжыць на скрыжаваньні сьветапоглядаў, творчых амбіцыяў, кланавых інтарэсаў, асабістых крыўдаў – новых і даўнейшых. Яна далёкая ад унівэрсальнасьці й усёабдымнасьці – чытачам "НН" яшчэ будзе над чым паразважаць. Тым больш што вызначаць слушнасьць тае ці іншае пазыцыі давядзецца менавіта ім.**

# Непавага

**Я прачытаў у газэце "Наша Ніва" ад 21.V. матэрыял Юліі Андрэевай "Караоке па-беларуску" пра свайго сына Ігара і вечарыну яго памяці ў Філярмоніі.**

Пакідаю ўбаку зласьлівую манеру пісьма аўтаркі, пыхлівасьць, непаважлівыя характарыстыкі ўсім і ўсяму – такі ўжо, відаць, стыль яе журналісцкай працы. Тым ня менш, безапэляцыйны выклад фактаў жыцьця майго сына, ягонага навучаньня і побыту выклікаюць абурэньне ня толькі ў мяне, але і ў многіх людзей, якія ведалі яго пры жыцьці.

Зь першай клясы школы да сканчэньня кансэрваторыі Ігар займаўся ў клясе прафэсара Шэршэўскага. Рыгор Ільліч Шэршэўскі быў адным з заснавальнікаў сучаснай беларускай фартэпіяннай школы, ён адпрацаваў у Менску больш за пяцьдзясят год, выгадаваў вялікую колькасьць першаклясных музыкаў. Ягоную школу прайшлі кампазытары Ігар Лучанок, Генрых Вагнэр, прафэсары й выкладчыкі кансэрваторыі і музычных вучэльняў Рэспублікі, канцэртмайстары Беларускага радыё й Опэрнага тэатру – усіх не пералічыць. Усе вучні шануюць памяць свайго настаўніка, цудоўнага музыкі й чалавека.

У сваім артыкуле Юлія Андрэева так піша пра яго: "У той час у кансэрваторыі выкладаў *Ільля*(?!) Шэршэўскі – надзвычай таленавіты музыка, які не зрабіў канцэртнае кар'еры з прычыны псыхічнае хваробы". Гэта ж трэба прыдумаць такую лухту! Забываючыся на праўду, фантазія журналісткі разыгралася на ўсю шыр. Аказваецца, студэнцкі фартэпіянны дуэт Палівода – Раінчык спрабаваў паехаць на Ўсесаюзны конкурс эстрады, але чыноўнікі ў Міністэрстве культуры перакрылі ім кісларод, і цудоўны калектыў разваліўся. Ізноў лухта! Вось яшчэ прыклад поўнай безадказнасьці аўтаркі: "У кансэрваторыі ён сварыўся з выкладчыкамі, потым закахаўся і з гэтае прычыны прасядзеў на адным курсе два гады запар". Чарговая лухта! Ніколі ён не заставаўся на другі год. І далей у такім разухабістым стылі аўтарка пырхае па творчай біяграфіі кампазытара Ігара Паліводы.

І, нарэшце, Андрэева вырашыла разабрацца ў асабістым жыцьці і сьмерці Ігара. Яна патэлефанавала мне, і мы даволі доўга гутарылі пра Ігара, пра ягоны побыт, характар, сям'ю, дзёньнікі, якіх я ня бачыў, але якія спрабуе надрукаваць удава. Празь дзень у газэце я бачу, што мяне "падставілі" і выкарыстоўваюць для дыскрэдытацыі і прыніжэньня ўдавы памерлага Вольгі, хаця я не магу зразумець, навошта гэта спатрэбілася аўтарцы артыкулу. Андрэева лічыць нашу тэлефонную гутарку за інтэрвію. Тады, паводле законаў журналісцкай этыкі, яна абавязаная была ўзгадніць са мной свае высновы да друку. Але што чакаць ад чалавека, які не абцяжарвае сябе праверкай фактаў, усіх палівае брудам і такім чынам стварае бачнасьць сьмелага і вострага матэрыялу. Гэта дэзарыентуе чытача, зводзіць яго ад праўды.

Я перакананы, што журналістыка супрацьпаказаная кампазытарцы Юліі Андрэевай.

**Ігар Палівода-бацька**

# Кілерка

**Слова "крымінал" — з галіны міліцэйскай тэрміналёгіі. Але артыкул Ю.Андрэевай "Караоке па-беларуску" бліжэй за ўсё менавіта да гэтага разуменьня. Сама ж Андрэева выступае ў ролі журналіста-кілера, які адным махам пераступае праз мараль, этыку, сумленьне.**

Пачынаючы свой артыкул як рэцэнзію на вечар памяці І.Паліводы, аўтарка плаўна скіроўвае ўвагу на ягоную біяграфію і асабістае жыцьцё. Бясконцыя фактычныя памылкі, хлусьня, абразы, бруд, блытаніна — вось што Андрэева выдае за спробу палемікі вакол творчасьці й асобы І.Паліводы.

Зрэшты, "асабісты" погляд Ю.Андрэева мае на ўсё, пра што піша. У кожнай сваёй публікацыі яна стварае ажыятаж перш за ўсё вакол уласнай асобы. Эпатаж і скандал – яе крэда. Андрэева не турбуе сябе такімі "дробязямі", як удакладненьне імёнаў, фактаў, датаў (у "Караоке па-беларуску" як мінімум 8 фактычных памылак!). Стыль яе артыкулаў заўсёды пагардлівы, фанабэрысты – яна нібыта робіць ласку таму, пра каго піша.

У сваіх дзёньніках І.Палівода называе такі "мастацкі" мэтад вельмі дакладным, хоць і непрыстойным выразам.

Дарэчы, пра дзёньнікі. Мне давялося іх чытаць. Там шмат "салёных" фактаў і рэзкіх меркаваньняў, але патаемныя адкрыцьці Паліводы – "дзіцячы лепет на лужку" ў параўнаньні з "праўдай-маткай", якую "рэжа" ў артыкуле "Караоке па-беларуску" сп.Андрэева.

Папісваючы ад няма чаго рабіць свае эпатажныя опусы, Ю.Андрэева ўпэўнена, што і далей усёдазволенасьць будзе ёй сыходзіць з рук. Але ўсяму ёсьць мяжа!

**Вольга Брылон**



**Кампазытар Ігар Палівода**

# Замест караоке

**Мне было сорамна... Як ніколі не было сорамна за тое, што зрабіў нехта іншы.**

Мне было сорамна за Юлію Андрэеву, якую ведаю даўно і якой заўсёды аддаваў належнае за здольнасьць выказацца рэзка, але па справе, напісаць востра, але менавіта ад уласнае асобы. На фоне абрыдлага акадэмічнага "мы думаем" яе "я" заўсёды ўспрымалася як выклік, як выключэньне з агульнае крытычнае музыказнаўчае прыктыкі, а таму зьвяртала на сябе ўвагу. Ды гэтым разам заўсёды схільная да эфэктнасьці часам за кошт эфэктыўнасьці спадарыня Юлія зьмяшала ў неядомы кактэйль рэцэнзію на канцэрт і бяздоказныя, танныя плёткі, якія разам апусьцілі "НН" да ўзроўню тых афіцыёзных выданьняў, якім дазволена ў журналістыцы свабодна махляваць фактамі ў імя канчатковае мэты, але ж аніяк дзеля чалавечага сумленьня і годнасьці.

Мне было сорамна за газэту, якую я зусім нядаўна назваў "вернаю", бо верыў у яе і, рэальна ўсьведамляючы, што ў прэсавай практыцы памылкі непазьбежныя, тым ня менш не спадзяваўся, што менавіта ад газэты, якую я звыкся ўспрымаць абавязковаю часткаю ўласнага побыту, атрымаю літаральна поўху. Мне было сорамна за "Нашу Ніву", бо, заўсёды спакойна ўспрымаючы публікацыі, у якіх выказваліся думкі, што супярэчылі маім уласным уяўленьням пра тую ці іншую зьяву, я хіба ўпершыню ўбачыў, што газэта цалкам даверылася аўтару, аж да таго, што не прымусіла сябе элемэнтарна праверыць факты, сьлепа пайшла за напісаным, хоць негалосны прынцып журналістыкі кажа: не давярай нікому, а найменш – няштатнаму аўтару. І ў выніку "Нашая Ніва" паўстала зжаўцелым быльнягом, а я, прычытаўшы "Караоке па-беларуску", ці не ўпершыню ў жыцьці раптам адчуў, што мушу тэрмінова мыць рукі ад чорнае друкарскае фарбы. Ня хлушу! У мяне быў шок! І зусім не таму, што я лічу недапушчальным аж настолькі, на падставе амаль выключна чутак, улазіць у асабістае жыцьцё людзей, а таму, што гэта было зроблена менавіта ў "Нашай Ніве", газэце, якая па духу й зьмесьце аніяк ня можа прэтэндаваць на танную сэнсацыйнасьць. Я спакойна стаўлюся да калегаў, якія працуюць у прэсе, што ў нас называюць "жоўтай". Справа ніяк не ў спэцыялізацыі журналіста ці газэты, а выключна ў тым, наколькі ён прафэсійна валодае жанрам, стылем, адчуваньнем дыстанцыі. Можна нахабна зазіраць у чужую кішэню ці пад спадніцу, але выключна ў межах жанру ды ўласных здольнасьцяў. Прабачце, але ў гэтым артыкуле я ўбачыў адно: адсутнасьць прафэсіяналізму, і найперш – з боку менавіта газэты. Ня ўцяміла, не адчула, не зрэагавала.

Мне, нарэшце, сорамна і за самога сябе, бо нейкім чынам я таксама маю дачыненьне да "НН" ужо хоць бы таму, што чытаю гэтую газэту і лічу яе неабходнай сёньняшняй Беларусі. Але, спадарыня Юля, вы самі неяк сказалі, што я асабіста вам паспрыяў у авалоданьні нюансамі творчасьці. Ды шмат – гэта ня значыць, што цалкам. Гэта значыць, што ў тым ліку і я не давёў да вас: плёткі з камунальнае кухні можна выносіць на старонкі газэты, але гэта павінна быць адпаведная плёткам газэта. Яны, плёткі, могуць быць няхай сабе ў сенцах Саюзу кампазытараў, але прэса ў цэлым – гэта перш за ўсё спосаб падзяліцца з аўдыторыяй няхай нечым дужа асабістым, інтымным, нечаканым, але доказна, каб потым можна было адкрыта глядзець у вочы кожнаму, нават таму, хто з вамі ня згодны, чые асабістыя пачуцьці ці амбіцыі вы закранулі. Калі вы шчырыя ў слове – ніхто не заміне вам глядзець адкрыта і сьмела.

Мне здаецца, што Юлія Андрэева пісала, загадзя заплюшчыўшы вочы. На ўсё.

Чорнарабочы беларускай эстрады – так я назваў бы Ігара Паліводу, музыку з самымі звычайнымі чалавечымі слабасьцямі, дзякуючы таленту якога многія беларускія эстрадныя кампазытары сёньня зрабіліся вядомымі. Ня ведаю, колькі соцень песень аранжаваў ён, зрабіўшы, па сутнасьці, з таго самага кулю. Ды выдатна памятаю, як летась у Зялёнай Гуры маэстра Станіслаў Фіялкоўскі ўвесь час распытваў, хто ён такі, той чалавек, які здолеў гэтак расьпісаць партыі песьні "Рэдкі госьць", якую ягоны *Big Warsaw Band*, што акампанаваў самой Наталі Коўл і безьлічы іншых сусьветнавядомых зорак, так і ня здолеў годна выканаць для Ірыны Дарафеевай – нават пасьля многіх спрашчэньняў у партытуры і дадатковых рэпэтыцыяў. Аднаго гэтага факту хапіла б, каб стрымацца ад несамавітых выказваньняў.

Я не магу назваць сябе блізкім сябрам Ігара Паліводы, бо не хачу штучна клеіцца да ягонага сьветлага дару. Аднак мне яшчэ ніколі не было гэтак сорамна чытаць артыкул, быццам напісана было тое пра таго чалавека, поруч зь якім я ніколі ня змог бы стаць у нялёгкую для яго часіну.

Цяпер я мушу тое зрабіць. Бо інакш мне было б сорамна ўдвая.

**Зьміцер Падбярэскі**



**Зьлева направа: Леанід Тышко (які прыдумаў назву «Песьнярам», а цяпер жыве ў Ізраілі), Ігар Палівода, Уладзімер Ткачэнка**

# Паміж

Юлія Андрэева

**Я разумею боль і абурэньне бацькі, які страціў сына, а цяпер вымушаны слухаць не адныя толькі кампліманты ў ягоны адрас. Ігар Пятровіч Палівода на мяне пакрыўдзіўся. Але гэта выключна мая ды ягоная праблема, нецікавая для чытачоў "НН". Варта, аднак, удакладніць некаторыя факты.**

Найперш – што тычыцца прафэсара Рыгора Шэршэўскага. Вучні Шэршэўскага з захапленьнем згадваюць, зь якой рамантычнай узьнёсласьцю і дэталёвай распрацаванасьцю ён выконваў творы Шумана. Іграў пераважна ў вузкім коле, бо панічна баяўся сцэны. Хвароба Шэршэўскага называлася агарафобія – боязь адкрытых прастораў. Апошнія пятнаццаць-дваццаць гадоў жыцьця ён няздольны быў самастойна дабрацца ў кансэрваторыю і вярнуцца дахаты, хоць меў кватэру літаральна за 100 мэтраў ад вучэльні. З пункту гледжаньня афіцыйнай мэдыцыны, гэтая хвароба кваліфікуецца як "нэўроз навязьлівых станаў" (код 300.3). У Амэрыцы і Заходняй Эўропе яе лечаць з дапамогаю псыхааналізу. Савецкая ж псыхіятрыя пакідала нэўротыкаў іх собскаму лёсу. Аніякіх рэпрэсіўных захадаў, аніякіх шпіталізацыяў і дыскрымінацыйных запісаў у амбуляторных кнігах – і аніякага лячэньня. Тым больш, што хвароба ніяк не адбілася на бліскучым інтэлекце Шэршэўскага. Ён карыстаўся славаю дасьціпнага распавядальніка показак, аўтара зьедлівых жартаў, якія маланкаю аблятаці кансэрваторыю.

На думку сп.Паліводы, я прынізіла пэдагагічныя дасягненьні прафэсара Шэршэўскага. Ён піша, што сярод музыкаў, якія выйшлі з клясы Шэршэўскага, былі Генрых Вагнэр ды Ігар Лучанок. Але абодва заўжды былі найперш кампазытарамі, а не піяністамі. Дадам, што сярод вучняў Шэршэўскага – заслужаная артыстка Беларусі, салістка Беларускай філярмоніі Ірына Шуміліна, прафэсары і выкладчыкі Беларускай акадэміі музыкі Валянціна Рахленка, Людміла Андрэева, Уладзімер Дулаў, ляўрэатка міжзанальнага конкурсу Ганна Рабіновіч (цяпер працуе ў Нямеччыне), вядомы фартэпіянны пэдагог Натальля Цёмкіна (цяпер працуе ў Канадзе).

Шэршэўскі быў выдатным музыкам і пэдагогам. Аднак была ў ягоным характары нейкая рыса, якая вымушала вучняў уцякаць ад яго ў Маскву, у Пецярбург, у іншыя прафэсіі... Вэтэраны кансэрваторыі памятаюць, як прафэсар Эпштэйн накінуўся на адну

# Быццам сіні аганёк...



Вольга Брылон

**Калі гаворыш пра творчасьць Ігара Паліводы, вельмі проста абыходзіцца бяз гучных словаў і фальшывых эпітэтаў. Ён ня быў "духоўным лідэрам нацыі", "тытанам думкі" ці "генэратарам ідэй". Ня меў ніякіх афіцыйных рэгаліяў і званьняў. Але Палівода валодаў тым галоўным, што заўсёды вызначала яго сярод шматлікіх калегаў — вялікім, да апошняй кроплі шчодрым талентам.**

Такіх, як Ігар Палівода, звычайна называюць "абранымі", "нетутэйшымі". Напэўна, ягоная заўчасная сьмерць сталася нават нейкім выкупленьнем за гэты талент. І чарговы раз пацьвердзілася сумная заканамернасьць: геніяльныя творцы не затрымліваюцца на гэтым сьвеце, Бог забірае іх раней за іншых.

Ігар сур'ёзна цікавіўся гісторыяй свайго роду. Ужо ў сталым веку разам зь дзедам, Пятром Ёвавічам ён склаў генэалягічнае дрэва Паліводаў аж да 7-га калена! Як высьветліў Ігар, ягонае прозьвішча мае украінскае паходжаньне, але больш як 200 гадоў таму адзін з Паліводаў пусьціў карані пад Клецкам (і дагэтуль там ёсьць дзьве вёскі — Яжэвічы і Шчэпічы, дзе жывуць цэлыя кланы Паліводаў).

## АД БАХА ДА "ШЭРАНЬКАГА КОЗЬЛІКА"

У Ігара вельмі рана выявілася схільнасьць да музыкі, і бацька, вядомы ў свой час піяніст, адвёў сына ў музычную школу пры Беларускай кансэрваторыі ў клясу прафэсара Рыгора Шэршэўскага. Ігар Палівода выявіўся здольным вучнем. На IV-м курсе кансэрваторыі, у 1972 г., ён стаўся дыплямантам IV-га Ўсесаюзнага конкурсу піяністаў, які адбыўся ў Менску. Па выніках І-га туру пасьля выкананьня санаты Гайдна Палівода займаў 1-е месца. Потым, на II-м і III-м турах ён саступіў. Але сябры згадваюць, што Ігар і не імкнуўся ў фаварыты. Ён успрымаў удзел у конкурсе як простую неабходнасьць, таму і не рыхтаваўся сур'ёзна.

"У Ігара гнуткія, моцныя, дакладныя пальцы — цудоўная якасьць піяніста, — пісалася ў адной з рэцэнзіяў на ягоны конкурсны выступ. — Ён іграе жыва, паўнакроўна, мае віртуозную тэхніку".

У кансэрваторыі вызначылася і яшчэ адна рыса таленту Паліводы — дар імправізатара, здольнасьць ствараць музычныя пародыі. У памяці многіх музыкаў ягонага пакаленьня засталіся кансэрваторскія "капусьнікі", дзе цьвікам праграмы заўсёды быў фартэпіянны дуэт Ігар Палівода — Васіль Раінчык. Яны гралі "музычныя кактэйлі" — папуры зь вядомых песьняў уперамежку з клясыкай — і дружны студэнцкі рогат падчас іхных выступленьняў пераходзіў у авацыю, калі яны сканчалі і паважна раскланьваліся.

Рэдкае пачуцьцё гумару Ігара Паліводы яшчэ ня раз знойдзе адбітак у ягонай музыцы. Чаго вартае, напрыклад, папуры на тэмы песьняў Райманда Паўлса "Раймонда", якое Ігар ахрысьціў "рондо-санатным кампотам з рэфрэнам *"Allegro Mafioso"* (твор гэты даволі часта гучыць па радыё)! А сюіта для камэрнага ансамблю "Шэранькі козьлік"! А харавая фуга "*У попа была собака*", якая, у поўнай адпаведнасьці з законамі паліфоніі, уяўляе сабой бясконцы падвойны 4-галосны канон у абарачэньні!

Ня памятаю, каб хтосьці з айчынных кампазытараў так прафэсійна ствараў гэткія высокамастацкія "бірулькі". Хіба толькі Шастаковіч!

## У "ПЕСЬНЯРАХ"

У канцы 70-х у якасьці піяніста і аранжавальніка Палівода трапляе ў ансамбль "Песьняры". Пазьней, з уласьцівай яму ironiяй, ён напіша ў дзёньніку: "[у "Песьнярах"] з 1979 па 1984 і з 1988 па 1989 год я, як вядома, служыў донарам"... "Песьняры" знаходзіліся тады на піку папулярнасьці, і праца ў ансамблі была на выжываньне — бясконцыя рэпэтыцыі, гастролі, пераезды, пералёты.

Менавіта ў "Песьнярах" Ігар упершыню паспрабаваў сябе на ніве кампазыцыі. Уладзімер Мулявін прапанаваў яму стварыць для ансамбля цыкл песень на вершы Робэрта Бёрнза.

"Атрымалася нейкая эўрапейская музыка, — успамінае Ўладзімер Мулявін. — Калі я прынёс чарнавы варыянт запісу на фірму "Мэлёдыя", мяне спыталіся: "А тэксты вы залітавалі?.." Альбом гэты так і ня выйшаў, хоць працавалі мы над ім зь вялікім задавальненьнем. Музыка Ігара выявілася вельмі складанай, няшлягернай... Ён быў вельмі здольны музыкант, чалавек з надзвычайным гумарам і вялікім інтэлектам. Ну, напрыклад, такі выпадак. Ідзе рэпэтыцыя... Ён іграе на клявішах, цалкам засяроджаны ў нотах. Падыходжу бліжэй і бачу: замест нот на пюпітры ляжаць шахматныя задачкі. Ён іграў — і адначасова рашаў шахматныя задачкі, уяўляеце?! Але, напэўна, ён мог разам з гэтым яшчэ што-небудзь рабіць, я думаю. І я ў яго нечаму вучыўся, і ён, вядома ж, шмат чаго ўзяў у ансамблі.

Я яго з удзячнасьцю ўспамінаю, нягледзячы на ўсе ягоныя "закідоны", бо таленавіты чалавек не бывае бяз хібаў. А ён быў ва ўсім таленавіты. За што б ні браўся. Вельмі шкада, што ён пайшоў з жыцьця так хутка. Ён толькі знайшоў сябе".

У рэцэнзіі на праграму па Бёрнзу, якую "Песьняры" некалькі разоў паказалі на гастролях, Ігару быў прасьпяваны сапраўдны дытырамб: "Палівода — гэта разынка ансамблю, — пісаў крытык, — імклівы, рэактыўны, зоркі, іскрысты агеньчык".

Палівода быў ініцыятарам выданьня ўнутрыпесьняроўскай газэты *"Ведомость"*. Выйшла некалькі яе нумароў. Пісалі ў газэту ўсе "песьняры", але "шэф-рэдактар", вядома ж, больш за іншых. Ён прыдумляў і жанры гэтым жартоўным опусам — "мэтамарфозмы", "смурасафізмы", "філязафічныя баналізмы" і г.д. Мала таго, што Ігар рэдагаваў газэту — ён яе і друкаваў — на машынцы, зразумела ж! Гэта быў своеасаблівы "каліграфічны машынапіс" — без адзінай памылкі і памаркі, з двухбаковымі палямі ў слупку. Ігара заўсёды захапляў працэс друкаваньня і пераплёту. Гэта было ягонае хобі. Усе дзёньнікі, а таксама кнігі вершаў і прозы надрукаваныя й пераплеценыя ім уласнаручна, як ён тлумачыў у дзёньніку — "саматужным спосабам, са стосікаў пісчай паперы і набораў "Юны пераплётчык". Ён сам выробляў для сябе нават запісныя кніжкі. На фарзацы кожнага беражліва пераплеценага яго рукамі нататніка — асабісты эксьлібрыс.

## ЗНОЎ СТУДЭНТ

Ужо ў сталым веку Палівода вырашыў набыць кампазытарскую прафэсію. Ён паступіў у клясу кампазыцыі да Зьмітра Смольскага. Плёнам вучобы сталіся буйныя акадэмічныя творы — кантата "Слова", канцэрт для фартэпіяна з аркестрам і фартэпіянная саната, якую на адным з кансэрваторскіх канцэртаў бліскуча выканаў піяніст Алег Крымер. У беларускай фартэпіяннай музыцы апошніх дзесяцігодзьдзяў яна сталася адным з самых адметных твораў. Дый увогуле, усё, што ён напісаў у акадэмічных жанрах за гады вучобы на кампазытарскім аддзяленьні, было значным і цікавым.

"Ігар трапіў да мяне ў клас сталым музыкантам, — распавядае Зьміцер Смольскі. — Мне зь ім было цікава працаваць. Гэта быў музыкант вялізнай творчай патэнцыі, таленавітая і адначасова трагічная асоба... У яго было ўсё, каб стаць вялікім музыкантам, каб заняць месца, вартае свайго таленту..."

## У АРКЕСТРЫ ФІНБЕРГА

З 1989 г. у жыцьці Ігара Паліводы пачаўся новы этап. Ён быў запрошаны ў Дзяржаўны Канцэртны аркестар на чале зь Міхаілам Фінбергам. Плёнам працы ў аркестры сталіся тры песенныя цыклі: "Максім" паводле М.Багдановіча (1992), "Беларушчына" паводле Я.Купалы (1993) і "Матчын сьпеў" паводле А.Куляшова (1994). Дзьвюма апошнімі праграмамі адкрываліся I і II Фэстывалі беларускай песьні і паэзіі ў Маладэчне.

Прэм'ера першага цыклу, попопэры "Максім", адбылася 15 лютага 1992 г. і сталася грандыёзнай

Працяг на старонцы 10.

# шчырасьцю і разьлікам

## справа зусім не ў прыватнасьцях...

маладую выкладчыцу, нядаўнюю студэнтку Шэршэўскага: "У Вас няма ніякай школы!" Гэтая сцэна адбывалася падчас паседжаньня кафэдры, аднак Рыгор Ільліч стаічна маўчаў. Як гэтая канфармісцкая маўклівасьць розьніцца ад палымянай бясстрашнасьці Міхаіла Бергера, колішняга рэктара Беларускай кансэрваторыі. У гады сталінскага тэрору ён прымаў на вучобу дзяцей рэпрэсаваных "нацдэмаў". Многія гэткім чынам ураталіся...

Відаць, сп.Палівода гэткіх драбніцаў ужо не памятае. Ён забыўся, як чыноўнікі ў Міністэрстве культуры не далі ягонаму сыну і Васілю Раінчыку паўдзельнічаць ува Ўсесаюзным конкурсе эстрады. Пра гэта мне распавядаў сам Раінчык у афіцыйным інтэрвію, якое я падрыхтавала для газэты "Імя". (На жаль, інтэрвію не было надрукаванае, бо там занадта пазытыўна ацэньвалася дзейнасьць Моладзевага тэатру эстрады. Рэдактарам аддзелу культуры "Імя" быў у той час Зьміцер Падбярэскі.)

Усе іншыя факты ў маім артыкуле таксама паходзяць з аўтарытэтных крыніцаў, і аспрэчваць іх можна хіба толькі з дакумэнтамі ў руках.

У якасьці найвышэйшага кампліменту, сп.Падбярэскі называе Паліводу "чорнарабочым беларускай эстрады". Прачытаўшы такое ў газэце, Палівода пабег бы скардзіцца. І меў бы рацыю, бо ягоны талент дазваляў яму прэтэндаваць на ганаровае званьне артыста. У сваіх дзёньніках (я бачыла толькі невялікую частку запісаў) Палівода горка наракаў на сваю аранжавальніцкую працу ды сьмяяўся з дылетанцкіх клявіраў, якія яму даводзілася аранжаваць. Ён працаваў многа і ўпарта, аднак ягоная праца была пераважна ананімнай — "на чужога дзядзьку", які кампанаваў мэлёдыю і забіраў сабе ўвесь ураджай лаўровага лісьця. Собскія ж Ігаравы песьні не здабылі ўсенароднай папулярнасьці. Яны гучалі з канцэртнай эстрады, але не рабіліся шлягерамі. Іх не было чуваць у рэстаранах, на пляжах і дансынгах, хоць песьні былі прыгожыя. У 80-я паўсюль панавала "Малінаўка". У 90-я — расейскія шлягеры ня лепшага густу. Цяперака надышоў час Палянэзу Агінскага... Трагедыя Паліводы была ў тым, што ён ня ўмеў быць простым і даступным. Ён быў задужа вытанчаным для шлягер-індустрыі, што гаспадарыла на беларускіх абшарах. Гэта было перавагай Ігара — але таксама й хібай, бо эстрадны кампазытар *мусіць* ствараць шлягеры. Іначай ягоная праца ня мае сэнсу. У кантэксьце гэтае трагедыі ўзьнёслыя словы пра "чорнарабочага беларускай эстрады" гучаць амаль як зьдзек.

Мае крытыкі ўпікаюць мяне за тое, што я закранула некаторыя падрабязнасьці ягонага асабістага жыцьця. Сп.Падбярэскі вінаваціць мяне ў распаўсюджваньні "плётак з камунальнае кухні". Хоць у дзёньніках Ігара Паліводы, якія сп.Зьміцер мяркуе апублікаваць, плётак і дыскрэдытуючых падрабязнасьцяў непараўнальна больш, чым у маім тэксьце. Шчыра скажу — гэткая крывадушнасьць з боку паважанага мной журналіста мне зусім не падабаецца. Дый дзіўна: чаму пра Высоцкага можна, пра Караткевіча можна, пра Шастаковіча можна — у акадэмічных выданьнях, у кнігах, у часопісах? А вось пра Паліводу нельга, бо гэта "сьвятое" і "сьветлае".

Сп.Палівода-старэйшы шчыра зьдзіўляецца, навошта мне спатрэбілася апісваць асабістае жыцьцё і "звычайныя чалавечыя слабасьці" ягонага сына. Жыцьцё артыста неаддзельнае ад ягонай творчасьці, і ў ім адным варта шукаць тлумачэньне посьпехаў і няўдачаў. Ігар Палівода ня здолеў зрэалізаваць свой вялікі талент. "Па пладах іх пазнаеце іх", — чытаем у Эвангельлі. — "Ці зьбіраюць з цярноўніка вінаград, або з асоту фігі?" (Мц. 7:17). Творчы плён Ігара Паліводы выявіўся вельмі сьціплым, у параўнаньні зь ягоным Боскім дарам. "Палівода — найталенавіцейшы з усіх маіх вучняў", — казаў калісьці кампазытар Зьміцер Смольскі. Ці адпавядае маштаб Паліводавага даробку сапраўдным маштабам ягонага таленту? Відавочна, не. Шлях, які ён абраў у беларускай культуры, стаўся шляхам у нікуды. Чаму? Найпрасьцей абвінаваціць бальшавіцкую ўладу, перабудову, "рэшткавы прынцып фінансаваньня", камэрцыялізацыю, разрыў культурных сувязяў... Маўляў, якія магчымасьці для самарэалізацыі былі ў Паліводы ў Беларусі 80-х — пачатку 90-х гадоў? Аднак магчымасьці былі. Пра гэта сьведчаць лёсы ягоных калегаў ды аднагодкаў.

У пакаленьні, да якога належыць Ігар Палівода, ёсьць Ігар Алоўнікаў — знакаміты піяніст, прафэсар Беларускай Акадэміі музыкі, ключавая постаць сучаснай беларускай піяністычнай школы. У адрозьненьне ад Паліводы, ён меў дастаткова адвагі, каб паступіць у Маскоўскую кансэрваторыю, а потым — у асьпірантуру. Ён вытрываў жорсткую школу Якава Фліэра і Міхаіла Васкрасенскага. А па сканчэньні кансэрваторыі не спакусіўся на прыемна-багемнае жыцьцё ў Маскве, на прывід "усесаюзнае" славы. Ён вярнуўся дамоў, бо заўжды ведаў, хто ён і адкуль. Як саліст Беларускай філярмоніі, ён выступаў у дзясятках вялікіх і малых гарадоў. І выконваў тую музыку, якую лічыў найлепшай: творы Бэтховэна і Мусаргскага, Агінскага і Манюшкі, сучасных беларускіх кампазытараў у собскіх апрацоўках... Дваццаць гадоў запар ён вучыць людзей любіць вялікую музыку, выхоўвае студэнтаў, якімі ганарыцца краіна. Ён працягвае заставацца лідэрам нават цяпер, калі ў Беларусі зьявіліся маладыя піяністы, якія перамагаюць на буйных міжнародных конкурсах і выступаюць на лепшых сцэнах сьвету.

У гэтым пакаленьні ёсьць Юры Гільдзюк — шматгадовы мастацкі кіраўнік Беларускай філярмоніі. Дзякуючы ягоным намаганьням, менскія аматары музыкі пазнаёміліся з творчасьцю сусьветных супэр-зорак — Біргіт Фінільё, Эвы Подлесь, Сяргея Ларына... Нельга не захапляцца

Працяг на старонцы 10.

# Быццам сіні аганёк...

Працяг са старонкі 9.

падзеяй культурнага і грамадзкага жыцьця краіны. Мне пашчасьціла быць сьведкай трыюмфу гэтага твору. Добра памятаю поўную залю Філярмоніі і той нечуваны ўздым, зь якім публіка ўспрымала кожную мэлёдыю.

У поп-опэры "Максім" у выкананьні Алены Саўленайтэ ўпершыню загучала песьня "Па-над белым пухам вішняў". Нават калі б Ігар напісаў толькі яе адну, яго ўжо цалкам можна было б залічыць у клясыкі песеннага жанру. Але ці ня клясыка — песьня "Талака", першыя такты якой вось ужо больш як 10 гадоў гучаць у якасьці застаўкі "Радыёфакту"? Ці ня клясыка "Маладэчна" на словы Леаніда Пранчака, якая стала гімнам гэтага гораду? Паліводавы "зонгі", як ён сам жартам іх называў, — гэта музыка высокага кшталту, сымфанічная па духу (нездарма ж ён адразу пісаў свае песьні ў партытуры, а не ў клявіры), не разьлічаная на масавага спажыўца. Ці не таму на конкурсах маладых выканаўцаў беларускія канкурсанты з зайздросным пастаянствам абіраюць для выкананьня менавіта песьні Паліводы? Бо ў іх — неспадзяваная глыбіня і цнатлівая прыгажосьць, што ідзе ад беларускай народнай песьні.

Яе Ігар адчуваў на генным узроўні. У яго няма наўпростых цытатаў, але інтанацыі беларускага мэласу нібыта разьлітыя па старонках ягоных партытураў і клявіраў.

"Ён ня быў каньюнктуршчыкам у творчасьці. Ён гэтага не разумеў і не прымаў, — кажа Леанід Пранчак. — Вось такі носьбіт чыстага мастацтва. Згадзіцеся, гэта вялікая рэдкасьць! Я сумую безь яго і заўсёды буду захапляцца тым, што ён зрабіў у беларускай песьні".

### "ВЕЧНЫ АГОНЬ"

Ігар Палівода прадчуваў сваю сьмерць, нават прадказаў яе на старонках сваіх дзёньнікаў. Ён працаваў днямі і начамі, без адпачынку. Часу на сябе заўсёды не ставала. Да таго ж Ігар шмат піў, часта адыходзіў у запоі. На жаль, алькагалізм — не распуста, як лічаць многія, а цяжкая невылечная хвароба. Ігар спрабаваў зь ёю змагацца, але ня здолеў...

Памёр ён 28 лютага 1996 г.

Ігар быў адзін у сваёй кватэры на Пляханава, якую зваў не інакш як "рабочым кабінэтам". Выйшла гэтак, што акурат у той момант, калі яму зрабілася блага, патэлефанавала жонка Вольга. "Ты знаеш, мне дрэнна", — сказаў ёй Ігар. Ягоны голас спалохаў. Вольга выклікала яму на Пляханава хуткую дапамогу. Ігар яшчэ змог сам адкрыць лекарам дзьверы, але сэрца хутка адмовіла. Калі Вольга ўварвалася ў кватэру, ён быў ужо мёртвы, — лекар моўчкі скручваў апаратуру.

Ігару Паліводу ішоў сорак шосты год...

Чым больш пазнаеш творчую спадчыну Паліводы — яго музыку, вершы, літаратурныя эсэ, дзёньнікавыя запісы, незвычайныя малюнкі, тым больш асэнсоўваеш значнасьць ягонае асобы. І тым больш адчуваеш горыч страты. Яму і сапраўды было дадзена бачыць і чуць тое, чаго не адчувалі і ня бачылі многія іншыя. Ігар пакінуў пра сябе добрую, сьветлую памяць. Гэта быў адзін з самых таленавітых мастакоў беларускай зямлі.

З прычыны таго, што ён бясконца паліў, сябры жартам празвалі яго "вечны агонь". Але ў гэтай жартоўнай мянушцы ёсьць і іншы, глыбейшы сэнс, які асабліва зразумелы цяпер. "Вечны агонь" ён запаліў у душах і сэрцах тых, хто блізка ведаў яго — як памяць пра сябе, як сымбаль нязгаслай сілы сваёй творчасьці, як вобраз вечнай любові да сваёй зямлі і людзей, што жывуць на ёй. І лепшы помнік яму — ягоныя цудоўныя песьні. Песьні, у якіх жыве яго тонкая і шчодрая душа.

*Аўтарка выказвае падзяку ўдаве Ігара Паліводы Вользе за магчымасьць карыстаньня ягоным архівам.*

**Выкарыстаныя фатаздымкі з архіву Вольгі Паліводы**



# Паміж шчырасьцю і разьлікам

Працяг са старонкі 9.

чалавекам, які штодзень вырашае няпростыя праблемы, ладзіць канцэрты, спрабуе ўсталяваць нармалёвыя партнэрскія стасункі паміж беларускімі музыкамі і антымузычнымі беларускімі ўладамі. А ў дадатак працягвае актыўна канцэртаваць і выхоўваць студэнтаў. Гільдзюк напэўна зрабіў бы значна "круцейшую" адміністратыўную кар'еру, калі б перастаў іграць на фартэпіяна. Але ён захоўвае рыцарскую вернасьць вялікай музыцы.

Ігару Паліводу гэткая музыка была непатрэбная. Хаця піяністам ён быў выдатным. Яго ня вабіла кар'ера саліста Філярмоніі ці кар'ера кансэрваторскага прафэсара. Сьціплы заробак. Самотныя вандроўкі па правінцыйных гарадох. Цяжкая, штодзённая праца без выходных і сьвятаў. Жорсткая самадысцыпліна. Самаахвярнае, амаль манаскае служэньне, якое паглынае чалавека бяз рэшты.

Ён хацеў свабоды, якая ўвасобілася для гэтага пакаленьня ў вобразе бітлоў. Палівода захапіўся бітламі яшчэ ў школе, і гэтая любоў засталася ў яго назаўжды. Ледзь не палова Беларускае кансэрваторыі на пачатку 70-х хварэла на бітламанію, але многія з тых хлапцоў і дзяўчат пазьней адмовіліся ад юнацкіх захапленьняў і адшукалі собскі шлях у мастацтве. Уладзімер Кандрусевіч, адзін з найлепшых піяністаў у кансэрваторыі, ахвотна граў на гітары ды фарсіў па вуліцах у замшавай куртачцы з махрамі. Пазьней ён скончыў кампазытарскі факультэт і напісаў шмат твораў. У тым ліку некалькі апэрэтаў, якія карыстаюцца нязьменным посьпехам і напэўна перажывуць свайго аўтара, нават калі яму наканавана дасягнуць веку патрыярхаў.

Выдатнае месца сярод кансэрваторскіх бітламанаў займаў і Васіль Раінчык. Ён таксама скончыў два факультэты: фартэпіянны ды кампазытарскі. Але ён зрабіў іншы выбар у жыцьці. Ён стварыў ансамбль "Верасы". Гэта быў гурт з сваёй эстэтыкай. Гурт, які ўславіў беларускую песьню на бязьмежных абсягах СССР. Менавіта Раінчык першым у Беларусі стаў рабіць камэрцыйную поп-музыку заходняга кшталту. Гэтая музыка ўжо не "выхоўвала" слухача, як савецкая масавая песьня, а цешыла і весяліла. Гэта была рэвалюцыя ў беларускім стаўленьні да музыкі. І менавіта Раінчык напісаў самую папулярную беларускую песьню апошніх дзесяцігодзьдзяў — "Калыханку".

Палівода ж абраў лёс "чарнарабочага эстрады", якая на той час усё мацней і мацней камэрцыялізавалася. Палівода ня ўмеў рабіць камэрцыйную музыку. І адначасова не хацеў працаваць у шуфляду — нават ведаючы, што тая шуфляда зь цягам часу ператвараецца ў скарбонку. Як многім нашым людзям, яму не ставала веры. Ён балянсаваў паміж шчырасьцю і разьлікам — сытуацыя тыповая для сяброў Саюзу кампазытараў БССР, для якіх цалкам натуральна быць папіхачамі собскае музыкі. Ён балянсаваў паміж жанрамі і кірункамі, не асьмельваючыся акрэсьліць собскае творчае крэда. Ён нават не заснаваў уласнага гурту, а задаволіўся другімі ролямі ў калектывах, дзе верхаводзілі іншыя людзі ды панавалі чужыя яму эстэтычныя падыходы.

Ён абраў гэткі няўдзячны шлях, бо кіраваўся пэўнымі жыцьцёвымі арыенцірамі, якія зьвялі яго з магістральных шляхоў артыстычнага і жыцьцёвага посьпеху. Віной усяму была жыцьцёвая ідэалёгія, якая хавалася за "звычайнымі чалавечымі слабасьцямі". Ідэалёгія, блізкая мільёнам савецкіх і постсавецкіх людзей, якія лічылі і лічаць, што галоўнае — "быць мужчынам". Мера мужчынскасьці — доза алькаголю, якую мужчына можа выпіць і ўтрымацца на нагах. Сапраўдны мужчына п'е толькі разам зь сябрамі ды "ведае сваю норму". Ён сьвядома падзяляе сваё жыцьцё на дзьве няроўныя і выразна адасобленыя часткі: побыт на працы і жыцьцё пасьля працы. Праца — гэта жыцьцё несапраўднае, абрыдлае, вымушанае. Гэта катарга, а сапраўднае жыцьцё пачынаецца за прахадной. Ён працуе ў хаце за фартэпіянам, але сапраўднае жыцьцё пачынаецца тады, калі ён спыняе працу і вітае сяброў, якія прыйшлі выпіць зь ім пляшку гарэлкі. Калі той стэрэатып усталяваўся, чалавек лёгка згаджаецца з другаснай рольлю, зьнявагамі і прыніжэньнямі. Трэба перарабляць дылетанцкую песьню чарговага клясыка? *No problem*, хоць на душы й брыдка. Чалавек знаходзіць суцяшэньне ў жартах, у дасьціпных расповедах за сяброўскім сталом, у прыхаваным адчуваньні перавагі, якое падмацоўваецца п'яным энтузіязмам сяброў: "Ты геній!"

Спадарыня Брылон цытуе ўспаміны Ўладзімера Мулявіна — таго самага, якога Палівода ў сваіх дзёньніках называе "рыбінай галавой", — пра тое, як Палівода, іграючы на клявішах, адначасова рашаў шахматныя задачкі. Але геній — калі ён напраўдзе геній — аддаецца працы на 200 адсоткаў. Ён вучыцца засяроджанасьці ў шэрай руціне працоўных будняў. Ён шукае новых фарбаў, новых выразных магчымасьцяў у найпростай мэлёдыі, у элемэнтарных "трох акордах".

Калі ж ён ухіляецца ад гэтага бясконцага пошуку, дэградацыя пачынаецца спакваля. Вельмі таленавіты чалавек (а Ігар Палівода быў выключна таленавітым) яшчэ доўга трымаецца на невычарпальных рэсурсах свайго Боскага дару. Аднак у мітусьні "сяброўства" хутка губляецца амбітнасьць. Паказальна, што Ігар зусім не імкнуўся да перамогі на Ўсесаюзным конкурсе і рыхтаваўся да яго абы-як. Звычайна ў дваццаць гадоў людзі з скуры вылузваюцца, каб выбіцца ў ляўрэаты, а калі нешта не атрымліваецца, успрымаюць гэта як катастрофу ды ўпадаюць у нэрвовы разлад. Палівода ж, наадварот, пачуваўся героем. Ён здабыў свой дыплём без усякіх намаганьняў — хіба гэта ня сьведчаньне ягонай абранасьці? А можа ён проста спужаўся перамогі? Пераможца заўжды самотны, а Ігар хацеў трымацца ў коле сяброў. Міжволі згадваецца славуты афарызм Леанарда да Вінчы: "Жывапісец альбо графік мусіць быць самотнікам... Бо, калі ты будзеш сам, ты ўвесь будзеш належаць сабе. А калі ты будзеш у таварыстве аднаго-адзінага сябра, ты будзеш належаць сабе толькі напалову".

Сябры абагаўляюць непрызнаных геніяў. Абагаўленьне ператвараецца ў культ, калі геніі заўчасна паміраюць. "...геніяльныя творцы не затрымліваюцца на гэтым сьвеце, Бог забірае іх раней за іншых..." — піша Вольга Брылон. Навошта прыпісваць Богу гэткае злачынства? Геніяльныя творцы жывуць столькі ж, колькі й "нармальныя" людзі. Богу яны патрэбныя менавіта на зямлі, і Бог чакае ад іх плёну (згадайма эвангельскую прыпавесьць пра таланты — Мц. 25:15-28.).

Плён Паліводы — гэта некалькі добрых песьняў на вершы беларускіх паэтаў, якія найлепей сьпяваць ціхім голасам, без скандалу і мітусьні. Ня дрэнна было б гэтыя песьні выдаць на плытах альбо надрукаваць. Ва ўсялякім выпадку, гэта было б нашмат карысьней, чым друкаваць асабістыя дзёньнікі. Чатыры гады таму выйшаў дыск з запісам песеннай опэры "Максім" на вершы Багдановіча. Песьня "Талака" трапіла ў магнітаальбом паэта Леаніда Пранчака. Сапраўдныя сябры даўно б паклапаціліся пра выданьне дыхтоўнай анталёгіі — з анатацыямі, фатаздымкамі, тэкстамі. Яны не зрабілі гэтага, пакуль Ігар быў жывы і меў адчайную патрэбу ў любові, спачуваньні ды разуменьні. Яны не зрабілі гэтага за пяць год, што прайшлі пасьля ягонай сьмерці. Яны ня зробяць гэтага ніколі, бо інтуіцыйна адчуваюць незваротнасьць часу. Трэ было любіць жывога з усімі ягонымі цнотамі і хібамі. А ідэалізаваны нябожчык нікому не патрэбны — прыдасца хіба як нагода для памінальнага тосту альбо як мумія ў Маўзалей. Дый на ролю муміі Палівода зусім не прыдатны.

# Суб'ектыўныя заўвагі рэдактара

Рыхтуючы да друку дыскусію вакол Паліводы, зрабіў цікавае назіраньне: калі спачатку азнаёміцца з шматлікімі водгукамі ўдзячных сваякоў, а таксама знаёмых і незнаёмых сяброў Ігара Паліводы на артыкул Андрэевай "Караоке па-беларуску", а пасьля пачытаць сам артыкул, адчуеш пэўнае расчараваньне: чакаў чагосьці страшна-выкрывальнага, амаральнага, а пабачыў звычайны тэкст — з традыцыйным для гэтае аўтаркі падыходам да праблемаў беларускае музыкі. Гэта наводзіць на думку, што канфлікт мае нейкія глыбейшыя прычыны... Аднак, чым займацца дадумваньнем, зьвернемся лепей да дыскусіі.

Часам дзіву даешся — наколькі глыбока ў нашай (пад)сьвядомасьці сядзіць памяць пра камсамольскае "прапясочваньне", партыйныя праборкі й народны кантроль. Менавіта такая патэтыка ажно пырскае з тэкстаў "вакол Паліводы". Так, Юлія Андрэева ў сваім адказе на крытыку ўвесь час падкрэсьлівае — вось, маўляў, Раінчык зладзіў ансамбль "Верасы", а Палівода — не, Кандрусевіч перахварэў на бітламанію й зрабіўся грамадзка-карысным кампазытарам, а Палівода — не, Алоўнікаў паступіў у Маскоўскую кансэрваторыю, а Палівода — не. Папросту як у той песьні *"Radiohead"* пра Джоні й ягонага сябра... Мала, маўляў, зрабіў для Беларусі. Ня езьдзіў па абласных ды раённых цэнтрах зь Філярмоніяй, не прапагандаваў у масах высокай музыкі. Задаволіўся роляй другога пляну ў... "Песьнярах". Цікава гучыць, асабліва калі згадаць, чым былі "Песьняры" ў 70-х. Дый цяжка назваць чалавекам другога пляну кампазытара, які пісаў ансамблю цэлыя праграмы.

Дзіўна чытаць пра піяністыку і кансэрваторскую кар'еру як нешта вышэйшага гатунку, а "бітламанію" ды поп-кар'еру як нешта другаснае, на што лепей за ўсё "перахварэць" і забыцца. А як быць з *"Let It Be"* Джона Ленана, прызнанай ці ні лепшым музычным творам тысячагодзьдзя? Сама катэгорыя вышэйшасьці-ніжэйшасьці ў дачыненьні да музычных жанраў папросту бессэнсоўная.

А сярод прыхільнікаў Паліводы выбух абурэньня выклікала згадка пра агарафобію ягонага настаўніка, прафэсара Шэршэўскага, якую Юлія Андрэева аблудна ахрысьціла "псыхічнай хваробай" (хоць больш чым на псыхалягічны комплекс альбо сымптом яна ня цягне). Аднак абураюцца не з нагоды няправільна ўжытага мэдычнага тэрміну, а папросту таму, што яна пра гэта згадала. Разумны чалавек, пачытаўшы, даўмеецца, што прафэсар меней за ўсё быў вінны ў сваёй бядзе, і камплексаваць з нагоды ягонае непадобнасьці да бальшыні няма падставаў. Але ж не, людзі яшчэ не забыліся на часы, калі "крок управа — крок улева" лічыўся спробай уцёкаў з савецкай рэчаіснасьці й адпаведна караўся — адсюль, відаць, і такая хваравітая рэакцыя.

Аднак галоўная прычына такой рэакцыі на "Караоке па-беларуску" крыецца, відаць, у традыцыі бесхрыбетна-фактаграфічнага асьвятленьня опэрнага й кансэрваторскага жыцьця ў нашай прэсе. Матэрыял Андрэевай — жывы й канфліктны, таму й выклікаў гэткае абурэньне й пратэст у людзей, што з журналісцкае віны адвыклі бачыць сябе на газэтных старонках простымі сьмяротнымі — з усімі ўласьцівымі апошнім слабасьцямі. Калі калегі-кампазытары, па словах Андрэевай, не прыйшлі на вечарыну памяці свайго сябра і суаўтара, дазнаўшыся, што яе рыхтуе жонка Паліводы, якая, ізноў жа па словах Андрэевай, "не катуецца" ў кансэрваторскім асяродзьдзі, — чаму б пра гэта не напісаць? (Дзіўна, праўда, выглядае й пазыцыя аўтаркі артыкулу, якая лічыць такую аргумэнтацыю дастатковай.)

Калі канцэрт (больш за тое — вечар памяці) насамрэч быў нізкаякасны, калі добрыя песьні дрэнна выконваліся, калі музыкі й арганізатары паставіліся абыякава — чаму б пра гэта не напісаць?

Юлія Андрэева бачыць і ўздымае праблемы, упісвае прыватныя зьявы ў шырэйшы кантэкст. Гэта журналістыка іншага, высокага ўзроўню, але стылю Беларусі амаль не вядомага. Варта дараваць аўтарцы памылкі, непазьбежныя пры асваеньні новага стылю.

**Андрэй Скурко**

# АГНІ Ў КРЫВІ РАДЗІМЫ

Людміла Рублеўская

Агонь — увасоблены пераход з адной якасьці ў другую. З аднаго сьвета — у другі. У храмах заўсёды гарыць агонь. Калісьці ён спальваў кроў і плоць ахвяраў, сёньня — кнот у сьвечках і духмянасьці ў лямпадах. Калі глядзіш у полымя, сустракаешся з позіркам боства. Але варта зблытаць і абагавіць сам агонь — зь яго трапятліва-блакітнага асяродку зірне ў тваю спалоханую душу той, чыё імя не называнае... І неадольна захочацца адкупіцца ад гэтага бязьлітаснага позірку і кінуць прагным чырвоным шчупальцам... ну, хоць трэску. І з насалодай, зь неўсьвядомленай баязьлівай агідай назіраць, як дрэва курчыцца і чарнее, як бессаромна адкрыта адбываецца працэс сьмерці і распаду...

Ня ведаю, ці пакланяюцца агню дзе ў сьвеце так, як у Беларусі. Лясы і паляны вакол гарадоў спрэс у чорных восьпінах кастрышчаў.

Колькі седжана ля такіх вогнішчаў, колькі слухана песень! Спачатку — пра сініх птахаў ды засьнежаныя вяршыні, пасьля — пра стан дзявочы Белай Вежы ды зорачкі далёкай чужыны... Сышла рамантыка, дагарэла... А можа, гэта толькі здаецца тым, хто адышоўся далёка ад колішніх вогнішчаў? Нехта ж падкідвае ў іх паранейшаму сухое гольле надзеяў, і палымнеюць на шэрых сьценах надпісы "Жыве Беларусь!".

У ведыйскай і індуісцкай міталёгіі Агні, бог агню, адначасова стары і малады, зямны і нябёсны, забойчы і вытаваўльны, пасярэднік паміж багамі і людзьмі. На выяве ён мае два аблічча — усьмешлівае і пагрознае...

Грэкі верылі, што Прамэтэй, каб прасьвятліць розум чалавека, вынес з Алімпу сьвятарны агонь, схаваўшы яго ў сьцябло трысьнягу. Але агонь сам сышоў да людзей — агонь, які не абпальваў і не забіваў. Майсей размаўляў зь Ім. Ён сыходзіў на апосталаў. Ён і цяпер штогод у дзень Уваскрашэньня сыходзіць на Гроб Гасподні, і ўсе сьвечкі ў храме самі запальваюцца дзіўным, непякучым полымем...

Штогод па Беларусі езьдзіць "навукова-творчая экспэдыцыя", возіць па храмах лямпаду з тым Жыватворным агнём. І ў кожным храме запаветную лямпаду чакае натоўп ахвочых запаліць ад сьвятога агню сьвечку. Стаюць у чаргу, штурхаюцца, хвалююцца... Ці хопіць усім?

Савецкі Вечны агонь, сілкаваны расейскім газам, выходзіць з-пад зямлі... Мабыць, таму ён і мае мала супольнага з тымі сьвечкамі, што запальваюць на Дзяды на магілах. Ля яго немагчыма маліцца... Можна толькі зазіраць у тую прорву, адкуль ён працягвае чырвоныя языкі, і думаць пра сьмерць. Мне чамусьці ў мігценьні Вечнага агню заўсёды бачыліся перакрыўленыя пакутай, выцягнутыя твары... На сваё вясельле я адмовілася ехаць на плошчу Перамогі для традыцыйнага ўскладаньня кветак. Абмежаваліся ўзыходжаньнем на наваствораны Курган Перамогі па праспэкце Машэрава, дзе бранзатварая кабета з рысамі Буды ўздымае ня меч і нават ня серп, а фанфары.



Калі палілі ведзьмаў ды герэтыкоў, інквізытары шчыра верылі, што робяць дабро тым, каго паляць. Некалі на скалістых узьбярэжжах так званыя берагавыя піраты — звычайныя тубыльцы — распальвалі ўначы агні. Караблі плылі на іх і разьбіваліся. Паводле закону ўсё, што трапляла пасьля крушэньня на бераг, рабілася ўласнасьцю мясцовых жыхароў. Гэта была звычайная, побытавая, сямейная справа.

Астанкінская тэлевежа сьвяцілася начамі за маім інтэрнацкім акном, быццам нейкі падманны маяк, блакітны прывід сапраўднага леташняга пажару.

У Беларусі жыве сто пяцьдзясят відаў дзённага матыля, які завецца агнёўка. Псуе гэтая агнёўка ўсё, маючы дзеля кожнае псоты свой асобны від: кукурузу і буракі, хвою і зерне, каноплі і воск у вульлях... З выгляду матыль зусім непаглядны, шэры. Мусіць, назва абумоўленая гэтай усяяднасьцю, як у полымя?

Зачараванасьць агнём у чалавеку эталягі тлумачаць інстынктам. Яны ж прыпадабняюць агню мільганьне сьветлавых эфэктаў, думак і вобразаў на экране тэлевізара, які заварожвае сёньняшняга гома сапіенса гэтак жа, як некалі сапраўдны агонь у вогнішчы. Гэты інстынкт з жывых істотаў ёсьць толькі ў чалавека ды ў сабакі.

Альхімікі насялялі агонь жывымі істотамі — саламандрамі. Хаця Пліній, старажытнарымскі гісторык, апісваў іх як рухавых яшчарак, рамантыкі Сярэднявечча нярэдка ўяўлялі саламандру прыўкраснай жанчынай з вогненымі валасамі. Яе існаваньне было доказам таго, што можна жыць у агні. Бо як жа будуць вечна гарэць уваскрэшаныя грэшнікі? Ткані з асбэсту прадаваліся пад выглядам скуры саламандры.

Геракліт называў агонь асновай сусьвету. Старая мэдыцына лічыла агонь адным з чатырох складнікаў чалавечае крыві. Калі гэты складнік пераважаў, чалавек валодаў халерычным тэмпэрамэнтам.

На раскопках старога Менску відаць на глыбокім зрэзе зямлі чаргаваньне шэрых палосаў з чорнымі. Гэта сьляды пажараў. Кожная такая паласа — нібыта чорны радок, зь якога наноў пачыналася гісторыя гораду.

Пралетарскі пісьменьнік Максім Горкі любіў ладзіць маленькія вогнішчы ў попельніцах ці хаця б спальваў запалкі. Яго герой Данка вырваў уласнае палаючае сэрца, каб асьвятліць свайму народу дарогу зь цемры. А народ па тым сэрцы патаптаўся... А вось сябра Горкага Карней Чукоўскі ў дзёньніках піша, як разам са знаёмцам-камісарам і славутай балерынай езьдзіў на звычайную забаўку савецкай эліты тае пары — глядзець, як спальваюць нябожчыкаў у новаадчыненым крэматорыі. Дамам асабліва падабалася, як у агні выбухаюць вочы.

Вогненныя вёскі, Вечны агонь, купальскае вогнішча, зьніч, агонь чарнобыльскага рэактара... У крыві маёй радзімы дастаткова агню. Але кроў тая чамусьці цяпэ ўсё марудней, нібыта балотная флегма. Усё больш кастрышчаў на яе целе...

# Добра гарэў агонь

Віктар Шніп

Зімовымі вечарамі ў бабулі Ганны зьбіраліся суседкі. І пакуль хапала газы ў лямпе, пралі воўну і сьпявалі. Я, залезшы на печ, глядзеў, як круцяцца калаўроты і як час ад часу ў лямпе жанчыны папраўляюць кнот, каб добра гарэў агонь. Пад ня вельмі вясёлыя песьні і пошум калаўротаў я засынаў. І цёпла мне было на печы, у якой жыў агонь, якому ўсе пакланяліся ў хаце. І сёньня, успамінаючы той далёкі час, я, нібы матыль, што ляціць да агню лямпы, лячу душою ў дзяцінства і апякаюся аб тое, чаго ўжо няма і больш ніколі ня будзе.

Нядзеля. У школу ісьці ня трэба. Бацькоў дома няма. І я, дастаўшы з шафы ўсе лекі і адэкалён, займаюся хіміяй. Мае малодшыя брат зь сястрой, паразінаўшыся, толькі і глядзяць, што будзе далей. А далей я ўзяў прадзеныя ніткі, намачыў іх у сваёй "хіміі" і, падвесіўшы іх да бэлькі, падпаліў. Ніткі гарэлі добра і дымна. Брат зь сястрой аж пішчэлі ад новых уражаньняў. Але зайшла суседка, і я ўцёк з хаты ў лес. Сядзеў там дацямна... Назаўтра мама прывяла міліцыянта, які мяне доўга палохаў турмой. Здаецца, напалохаў, але праз нейкі тыдзень я расклаў агонь ля сьцяны хаты. Ізноў мне дасталося ад бацькоў, ізноў прыходзіў міліцыянт і раіў мяне весьці да знахара: "У яго нейкая мана да агню! Баюся, што ён нам усю вёску спаліць..."



Было такое сьвята — Дзень піянэрскай арганізацыі. Кожны год у гэты час настаўнікі на чале з дырэктарам вялі школьнікаў у лес, дзе на паляне, выклаўшы з каменьня зорку, палілі вогнішча. Траплялі на сьвяткаваньне толькі заслужаныя. У сёмай клясе ў лес узялі і мяне. Агонь мы расклалі вялікі. Настаўнікі правялі ўрачыстую лінейку і, загадаўшы нам сьпяваць *"взвейтесь кострами, синие ночи"*, сышлі глыбей у лес піць самагонку. Сярод нас старэйшыя хлопцы, застаўшыся без нагляду, таксама сталі частавацца. І хутка *"взвейтесь кострами"* гучала так, што хоць ты вушы затыкай. Чым бы гэтае сьвята закончылася, невядома, калі б да нас на паляну зь лесу ня выйшаў нейкі дзед з калачінай і не закрычаў: "Едры вашу маць!!! Што гэта тут робіцца?! Прэч адсюль!!!" І разьбегліся мы па лесе, як агонь па сухой траве...

Бацька гоніць самагонку. Час ад часу зазіраю да яго з пытаньнем: "Колькі ўжо там нацякло?" І недзе апоўначы бацька сам ужо кліча мяне, каб дапамог спарадкаваць апарат. На стале поўнае вядро. Бацька каштуе кубкам, а мне дазваляе памачыць палец і аблізаць. Самагонка цёплая і пахне хлебам. "Нясі паперу. Пабачым, як гарыць", — кажа бацька і дастае запалкі. Я мачаю паперу і падношу да агню. Самагонка капае і гарыць сінім полымем. Бацька ўсьміхаецца: "Вось так будуць вантробы гарэць..."

Позна вечарам зь Менску еду ў вёску. На ўезьдзе ў Ракава, дзе абапал дарогі могілкі, бачыцца россып агню на каталіцкіх магілах. Нехта кажа: "Паглядзіце, як палякі панапіваліся, аж сваe могілкі падпалілі..." І ў адказ: "Сёньня каталіцкія Дзяды..."

З братам прыехаў дахаты. Мароз пад трыццаць. На кухні няма вады — перамерзла труба. Мама папрасіла размарозіць, а сама некуды пайшла. Ну мы і ўзяліся за работу. Раскапалі сьнег ля падмурка. Прынесьлі газавы балён і сталі грэць зямлю, дзе ляжыць труба. Недзе праз паўгадзіны я адправіў брата ў хату, каб пагледзеў, ці пацякла вада. Валодзя пайшоў і тут жа вярнуўся: "Падлога гарыць!" Я ў хату, а там дыму, што аж чэрці скачуць. Дабраўся неяк да крана, пакруціў, а зь яго як зашыпіць, як бухне іржавай парай — проста канец сьвету. А ў дыме чую мамін голас: "Заходзьце. Ня бойцеся, гэта мой Віця ваду мне размарожвае..."

У інтэрнаце Менскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікуму на кухні мангол пёк селядзец. Газавая пліта адна, таму да яе заўсёды чарга. Пячэ мангол селядзец паўгадзіны, гадзіну і ўсё ніяк не дапячэ. Глядзеў на ўсё гэта эгіпцянін, глядзеў ды ўзяў і схапіў гарачую патэльню і стукнуў ёю мангола па галаве. І тут пачалося. Манголы выключылі па ўсім інтэрнаце сьвятло, наламалі ножак ад крэслаў і пачалі біць усіх запар арабаў. Недзе праз паўгадзіны прыехалі міліцыянты і забралі нашага хлопца, які іх выклікаў. А на кухні доўгі час была адключаная газавая пліта, як нам сказалі, у супрацьпажарных мэтах.

Хлопцу было трыццаць сем гадоў. Бацькі памерлі. Хацеў жаніцца — у вёсцы няма з кім. Шукаў у суседніх — таксама няма. Стаў выпіваць. І раз, напіўшыся, лёг у ложак з цыгарэтай. Пажарная прыехала тады, калі ўжо было позна. І цяпер стаяць у вёсцы чорныя рэшткі хаты. І дождж ідзе, а яны чорныя, і сьнег ідзе, а яны чорныя...

Зь зімовых вакацыяў вярнуўся ў Маскву на пару дзён раней. Здавалася, што нікога ў інтэрнаце на маім паверсе, акрамя мяне, няма. Ды сярод ночы прачнуўся ад песень на калідоры. Выглянуў за дзьверы. А там на кухні на цэмэнтавай падлозе гарыць вогнішча, а абапал яго сядзяць тувінцы і п'юць гарэлку.

Празаік Алесь Асташонак трапіў у больніцу. З сабой у яго быў кіпяцільнік. І захацелася яму папіць гарбаты. А тут раптам доктар у палату заходзіць і кліча на ўколы. Алесь выхапіў кіпяцільнік з кубка і, ня выключыўшы яго з разэткі, схаваў пад падушку... Да канца дня хворага выпісалі дахаты.

Неяк выбраўся з сынам Максімам у вёску пазьбіраць грыбоў. Крыху назьбіраўшы, прыселі на ўскрайку лесу падсілкавацца. Я расклаў вогнішча. Нечакана да нашага дыму падышла маладая жанчына, што непадалёку зь дзецьмі пасьвіла радоўку. Не пытаючыся, прысела побач. Дастала з торбы пляшку з-пад мінэралкі і прапанавала: "Пакаштуй майго соку..." Я адразу зразумеў, што гэта за сок, і, крыху пааднекваўшыся, зрабіў пару глыткоў. У размове высьветлілася, што жанчына родам з Ракава, а ў Пугачы выйшла замуж. Даведаўшыся, хто мае бацькі, павесялела: "Я ведаю, гэта ваш брат паэт. Такі лысы. Кожныя выходныя прыяжджае і корпаецца ў градах..." Я слухаў пастушку і корпаўся ў вогнішчы, а Максім мне шаптаў: "Я маме раскажу, што ты зь цёцяй гаварыў..."

На вуліцы амаль каля самага пад'езду дворнік паліць жоўтае лісьце. Дым затапляе двор, вуліцу. І ўжо ня бачны Храм, у якім каля абразоў гараць сьвечкі...

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю



**Гістарычны слоўнік беларускай мовы**. Вып.20: Невагаючийся — Никогда / Скл. А.Булыка ды інш.; Пад рэд. А.Булыкі. — Менск: Беларуская навука, 2001. — 402 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-08-0374-6

*2000 словаў, даецца характарыстыка лексыкі беларускае літаратурнае мовы XIV–XVIII ст.*

М.Ермаловіч. **Старажытная Беларусь**: Полацкі й новагарадзкі пэрыяды / Прадм. М.Ткачова; 2-е выд. — Менск: Мастацкая літаратура, 2001. — 366 с.: іл. — Наклад 4200 ас. ISBN 985-02-0503-2

*Праз 11 гадоў «Мастацкая літаратура» выдала факсыміле славутае кнігі М.Ермаловіча «Старажытная Беларусь». Наклад першага выданьня (1990 г.) быў 20000 ас., цяпер — толькі 4200 ас. Каштуе 2,1 т.р.*

А.Адамовіч, Я.Брыль, У.Калесьнік. **Я з вогненнай вёскі...** / Для ст. шк. веку. — Менск: Мастацкая літаратура, 2001. — 446 с. — (Школьная бібліятэка). — Наклад 23284 ас. ISBN 985-02-0498-2

*Гэта кніга-дакумэнт: у ёй сабраныя запісаныя ў 1970–73 г. А.Адамовічам, Я.Брылём і Ў.Калесьнікам сьведчаньні ацалелых жыхароў спаленых фашыстамі беларускіх вёсак. Цана кнігі 650 р.*

Падрыхтаваў Віктар Мухін













STRONG

# Прыватныя абвесткі

**У рэдакцыю апошнім часам прыходзіла вельмі шмат бясплатных прыватных абвестак. Асабліва многа чытачоў выкарыстоўваюць рубрыку для азнаямленьня людзей са сваімі палітычнымі поглядамі. У гэтым нумары мы аддаем пад прыватныя абвесткі цэлую старонку. Нагадаем, што ў сувязі зь вялікім наплывам абвестак рэдакцыя гарантуе апэратыўнае надрукаваньне толькі тэрміновых абвестак у рубрыкі "Вітаньні", "Праца", "Жытло", "Адпачынак" ды падобных.**

## вітаньні

**Прывітаньне Яўгену** з-пад Пінску. Жыве рынак!

**Сямёне Домаш!** Партызанская Рада МФ зычыць табе перамагчы на прэзыдэнцкіх выбарах-2001. Мы верым у Перамогу!

**Міхаілу Чыгіру** жадаю мужнасьці, веры і перамогі на выбарах! Сяржук Цюшкевіч

**Шаноўны Франц Сіўко**, юныя паэты зь Езярышча дзякуюць Вам за цікавую сустрэчу. Плёну ў працы Вам

**Прывітаньне** Аляксею Чарняеву

**Кастуся Зьмітрыевіча** з 18-годзьдзем! У тваім "вялікім" веку варта рабіць праўдзівыя (хоць маленькія) выбары. Абламаны Бусьлік

**Вова-Вожык!** Віншую з Днём народзінаў. Спадзяюся, ты прыйшоў да сябе і знайшоў Яе. Памагай Бог! Той, хто нарадзіўся ў Кохане

**Вальжыну Чарневіч** з асабістым сьвятам віншуе моладзь (і ня толькі)! Оле-Оле! Беларусь жыве! Той самы...

**НеЖалезная Лэдзі**, я цябе кахаю і спадзяюся на хуткую сустрэчу. Нявожык

## друкаркі

**Друкаркі, маніторы** ўжываныя. Вельмі танна. Алесь. Т.: 228-45-86, 228-45-87

## здыму кватэру

**Здыму аднапакаёўку** з тэлефонам, не далёка, не задорага. Парадак гарантуецца, магчымая перадаплата. Тэл. 262-07-70, 223-31-07.

## ідэі

**Міколу П.** Замест скокаў па купінах набудзьце "Глёрыя Патрыя" Зянона. Павінна дапамагчы

**Беларускі вызвольны рух** – альтэрнатыва расейскай акупацыі і палітыцы нацыянальнай здрады

**На жаль**, для Зянона Пазьняка ўсе нашыя дэмакраты горшыя за Лукашэнку. Ці гэта разумна? Люцыя

**Усё зьменіцца** ў лепшы бок. Трымайся, Эліна, я з табою! Мара

**Здрадніцкія перакульваньні** "прагматыкаў" балюча ўспрымаюць тыя, хто яшчэ не зразумеў розьніцы паміж Вызвольным рухам і каляніяльнай апазыцыяй

**Не правы чалавека** — галоўнае для Беларусаў, а незалежнасьць і свабода, бо не бывае правоў чалавека пад акупацыяй

**Жыве Нацыянальная Рэвалюцыя!** Рыхтуйся, Яна пакліча. bps@tut.by. Пэйдж.: 289-12-12, аб. 4430

**Беларуская Партыя Свабоды**. Пэйдж.: 289-12-12, аб. 4430, bps@torba.com. Збор: мэтро "Пралетарская" штосераду а 19-й

**Кінуў паліць** ды жлукціць гарэлку, бо не хапае грошай і часу на беларускія кніжкі. Зрабі, як я! Кукан

**Патрыёты!** Здабудзем Беларускую Свабоду і абаронім родны Край, зьяднаўшыся ў адзіны непадзельны Легіён нацыяналістаў!

**"Зубры"** засьцерагаюць ад лукашызму, хоць самі ёсьць носьбітамі больш небясьпечнага й шкоднага вірусу. Асьцярожна: маскалізм!

**Добра было б** высунуць "Палянэз" у якасьці гімну вольнае Беларусі, з гэткай музыкай і гэткім тэкстам. Вольга

**Калі б газэта** й надалей была такой цікавай, як папярэднія нумары – дык можна й без ілюстрацыяў. Вольга

**Прыхільнікі Зянона Пазьняка,** гуртуймася! Далучайцеся да беларускае справы! Т.: 8-029-602-16-18 (з 10.00 да 20.00)

**Прыхільнікі Зянона!** Далучайцеся да НАС у Полацку: штоаўторак, а 19-й, г-ль "Дзьвіна", п.427. МЫ

**"Наша Ніва"** такая прыгожая бяз здымкаў Домаша й К°!

**Змагары** за незалежнасьць Радзімы з Магілёву! Філія БПС на чале з Высоцкім у нашым горадзе! Збор прыхільнікаў у сквэры насупраць кінатэатру "Радзіма" кожны аўторак а 18-й

**Міхасю Маліноўскі** з Баранавічаў, цяпер каменная баба стаіць у Пружане ля музэю. Яўхім Рупайла

**Жыхары м-ну "Зялёны Луг-5"!** Гуртуймася за З.Пазьняка на выбарах. П/а 119, а/с 31

**Стань побач з намі!** Белы Легіён. Пэйдж.: 207-00-00, аб. 4979

**"Наша Ніва"** — гэта жыцьцё Беларускае! Маці "Краіны Беларусаў" ды мяне! Сын Vit

**"Наша Ніва"** — наша сіла

**Aut vincere** aut mori. Zialony dyd, Bieracie

**Памолімся** разам з Алексіем II за Праваслаўную Незалежную Беларусь 22 чэрвеня ў Берасьці

**Не сварыцеся** й будзьце разам дзеля нашай перамогі, дзеля нашай Радзімы. Нівас Радзіміч, жаўнер УСРБ

**Я вярнуся,** і мы яшчэ пазмагаемся

**Воля** толькі родзіцца з крыві. Л.Геніюш

**На восеньскіх** прэзыдэнцкіх выбарах прэзыдэнтам РБ будзе абраны Зянон Пазьняк

**Мы галасаваць будзем** за кандыдата на прэзыдэнцкі пост РБ Зянона Пазьняка

**Тацяне Кузьміч:** вер сэрцу свайму! А яно кажа: Хто, калі ня мы?! Нацыяналіст Віт Валько

**Беларусы!** Адстаім Бацькаўшчыну. Не аддамо яе Сашку. Пераможам! Маленькая Вар'ятка

**Мара, прабач!** Я не хацеў цябе крыўдзіць! Але ўсё так, як мае быць! Віт Валько

**Няма ані** радка ў газэтах: што рабіць пры нерэгістрацыі, нядопуску назіральнікаў, фальсыфікацыі. Выпадковасьць? Расплюшчыце вочы! У.А.

**Законны прэзыдэнт** (в.а.) — дзядзька Сямён! Удзел у выбарах — прызнаньне перавароту (Канстытуцыі, Л-кі, нацсходу, ЦВК). Ганьба! У.А.

**Пасьля праграмы** Позьнера ці ёсьць сумнеў: за альбо супраць зьвязу з Расеяй "пяцёрка"? Уладзімер

**Пасьля правалу** восеньскай авантуры — гуртуймася вакол Шарэцкага. Уладзімер

**"Пяцёрка"** ў расейскім этэры: ні слова пра сувэрэнітэт, яго недатыкальнасьць. Больш пытаньняў няма. Уладзімер

**Гэй, беларусы!** Дзе можна набываць беларускамоўную праграму тэлеперадач? Т.: (у Лунінцы) 2-47-72

**Сп.Мухін!** Хто такі В.Сьпіцын (№19, 2001)?! Наш паэт — Алесь Сьпіцын! Трэба ведаць! На ТБМ...

**Ці задумвалася спадарства**, чаму гэтак важна чытаць Пазьняка? Ананім

**Людцы**, няўжо ня бачна, куды нас цягне "аб'яднаная пяцёрка" (або "шасьцёрка") і дзеля чаго яна створаная?

**Гэй, выдаўцы "РАЗАМ"!** Якое дачыненьне рэкляма РНЕ, расейская лаянка, "першамай" і лявацкія беспарадкі маюць да Свабоды і Незалежнасьці?

**Цікава**, усе дзеці маюць такое спэцыфічнае ўяўленьне пра гумар ці толькі "залатыя"? Трусік сябрам-жывёлкам

**Няхай мова**, культура і гісторыя Беларусі жыве вечна. Жыве Беларусь. Вольнакраёўцы

**Шчасьлівыя чыстыя сэрцам**, бо яны ўбачаць Бога. Мацьв. 5:8

**З таго часу Ісус** пачаў абвяшчаць і казаць: пакайцеся, бо наблізілася Валадарства Нябеснае. Мацьв. 4:17

**Шчасьлівыя тыя, што маюць голад і смагу** справядлівасьці, бо яны насыцяцца. Мацьв. 5:6

**Беларускі ліцэй** мусіць быць беларускамоўным! Падумайце ўлетку! Людзі

**Беларусы!** Разам здабудзем волю Айчыны ў шэрагах Беларускай партыі Свабоды на чале з С.Высоцкім. Да Барацьбы! Пэйдж. 211-00-00, аб. 83-602. Інтэрнэт: www.bps-belarus.narod.ru

**Змагайся за волю** Бацькаўшчыны! Арганізацыя "Край". Пэйдж.: (017) 249-00-00, аб. 7315. E-mail: spa_kraj@hotmail.com. Паштовы адрас: 220037, Менск, а/с 49

**Жыве Нацыянальная Рэвалюцыя!** БПС заклікае да змаганьня. Збор прыхільнікаў — штоаўторак у 18.00 ля помніка Янку Купалу

**Беларуская** Партыя Свабоды кліча да Барацьбы за Маці-Беларусь! П.: 211-00-00, аб. 83-602

**Занон Пазьняк** — адзіны кандыдат, якога баіцца Лукашэнка. Сяргей

**Бяз тэрміну даўнасьці** павінны быць асуджаны злачынцы супраць незалежнай Беларусі — Селязьнёў, Строеў ды Барадзін! Каб жыла Беларусь

**"Левізна"** — хвароба, небясьпечная для жыцьця! Камунізм — людажэрства! Анархізм — супрацьграмадзкасьць (таксама злачынства)

**Добра**, што сп.Вячорку не падабаецца слова "апазыцыя". На жаль, сьмешную "ха-пазыцыю" занялі беларускія палітыкі падчас леташніх парлямэнцкіх выбараў! Байкот — ганебны пралік!

**Курапацкія могілкі** павінны мець агароджу! Гэта ня трэба дзяржаве, але трэба будаваць! Нават не пытаючыся дазволу!

**Перакуем на манэты** помнікі Леніну ды іншым нелюдзям! Колькі бронзы дарэмна хламіцца? Зашмат! А ў Беларусі дагэтуль няма грашовай дробязі, якая дорыць шчасьце! Калекцыянэр

**Насельніцтва Беларусі**, калі б яго не вынішчалі стагодзьдзямі розныя акупанты ды "свае" бальшавікі, магло б цяпер дасягаць сарака мільёнаў чалавек!

**"Шкадуючыя"** Вільню"! Чым "ваяваць", лепш пабудаваць у межах Беларусі Нававільню! Гэтаксама — Новасмаленск ды Навабранск.

**Чыгуначныя рэйкі** дагэтуль "спыняюцца" на мяжы. Хіба цяжка іх звузіць на восем з паловай см? Не! Але "жалезная заслона" камусьці патрэбная — інакш бы даўно ўжо перайшлі на агульны стандарт!

**Беларускіх легкавікоў** няма, бо нехта цяпер добра зарабляе на імпарце іншамарак? Ці дзяржаве яны не патрэбны? Але вырабляць сучасныя малалітражкі, якія б каштавалі ў 10—15 разоў таньней за іншамаркі, нескладана!

**Віно весяліць**, а гарэлка зьліць!

**Вядома ж**, Домаш не пераможа! Дык няхай зазьзяе адзіная Беларуская Зорка — Чыгір. Рэаліст

**Ніхто ня мае права** пазбавіць чалавека Радзімы! Нават улада дзяржавы!

**Вы калі-небудзь** бачылі злосных чарапашак? Не? Ну і ня варта выпрабоўваць лёс!

**Няма чаго ждаці** ад нікога, бо той толькі жне, хто пасее. Кастусь Каліноўскі

**Сержуку!** Баліць мне сэрца за Кастуся, бо гэты чалавек ня горшы за славутых асьветнікаў. Стася

**Калі саромецца** таго, што нашы продкі з Расеяй ваявалі, навошта тады змагацца за Беларусь? Стася

**Ганьне Дораш**. Кожны. Усе. Мы — тайна. Збалелая тайна зямлі і нябёсаў

**Не такія ўжо** і прыватныя гэтыя абвесткі, на жаль. Дый не заўжды іх чытаюць тыя, каму яны адрасаваныя. МэлянхаЛІЧНАЯ Наталька Базылевіч

**Мы з Вамі дзеці** аднаго народу, адной зямлі. У нас супольны лёс і адзін шлях праз Ісуса Хрыста. Ліцьвіны ў душы

**Жанчына — гэта зямля**. Але ўбачыць ейную існасьць могуць толькі тыя, што глядзяць на неба. Н.

***Літара***, *лі*тасьць, *лі*тургія, ма*лі*тва, *Лі*тва, па*лі*тра. Па*лі*тыка? Толькі калі ўлучае ўсё папярэдняе. Хрысьціянскія кансэрватары

**Галовы!** Зянон Пазьняк — адзіная моц, якая можа раскідаць усіх прыхлябацеляў нацыі. Інтэлігентнасьць і эрудыцыя — чыста эўрапейскія! Ад страху перад ім карытнікі чарнеюць тварам. Сіман

**Panovie!** U Kanstytucyi 3 traŭnia 1791 roku niama nivodnaha słova pra abmiežavańnie suverenitetu VKŁ!!! Czytajma aryhinalny tekst! Adkińcie staryja szory j pahladzicie na historyju szyrej. Słava Litvie j Treciamu Traŭniu! VVHH "Litvanika"

**Chutka** ekzamieny! Mužajsia, chłopcy! Zdamo! Fantamas

**Цяпер я ведаю**, для каго ўзыходзіць зорка Вэнэра. Гляджу на яе і ўзгадваю Вас. Нашчадак Максіма Багдановіча

**Дзяўчынка ў панамцы** чакае, калі нарэшце сьцяплее на вуліцы Няміга, а то неяк няўтульна ў мароз у панамцы...

**Нашае сяброўства** грунтуецца на трывалай глебе, якую трэба часьцей перасыпаць, на якой трэба самааддана шчыраваць. Цеплалюбівыя, але марозаўстойлівыя расьлінкі

**Антосю і Паўле!** Трымайцеся! Праз колькі тыдняў вы ўжо не пачуеце "Здравстуйце пажалуйста". Кірыла Менскі

**Рыгору!** Далучайся да групоўкі палітычных адмарозкаў з 10РН-3! Інакш – Poor you are. Pardon

**Абаронім новы** будынак Ліцэю ад вусата-лысых пачвараў. Ліцэіст

**Сп.Домаш!** Ці чыталі Вы вынікі апытаньня "НН"? Беларусь мусіць належаць беларусам! Беларусь для беларусаў — лёзунг XXI ст.!

**Ганьба** "дэмакратычнай" пяцёрцы"! Незалежнасьць перш за ўсё! Зьмітрок, Цярэшкаў сын

**Не забывайце,** што тэлепраграмы мантажуюцца! Выказваньні нашых у "Временах" моцна парэзалі, асабліва Домаша...

**Беларусы!** За сьпінаю "сапраўднай БПС" тыя, хто некалі разбураў БНФ і "Малады Фронт". Не абірайма ж шлях здрады й правакацыі!

## кантакты

**Спадару Андрэю Саган!** Калі ласка, адгукніцеся! Згубіў Вашыя каардынаты. Віталь Станішэўскі

**Gildur, Morfin ды Forion** ці іх знаёмыя – адгукніцеся! 225140, Пружаны, зав.Свабоды, 4. Раману

## кнігі, музыка

**Беларускамоўныя відэафільмы** ў Гомлі: штонядзелю ў Піянэрскім сквэры (ля цырку) або праз т.: 45-11-51

**Гарадзенская і Менская БМА** плянуюць выдаць да Сусьветнага Дня барацьбы з расізмам CD «Музыкі супраць фашызму і расізму». Гурты, якія хочуць узяць удзел, просім зьвязвацца: 230003, Горадня-3, а/с 110, e-mail: bma_garodnia@tut.by. Т.: (01522) 2-34-68. Усе зацікаўленыя арганізацыі, якія могуць дапамагчы пры выданьні і распаўсюдзе дыску, просім зьвязвацца таксама. Андрэй Мялешка

**Новы фільм** па-беларуску: "Глядыятар". Ст. м. "Трактарны завод", ДК "Усход" штонядзелю з 9.00 да 14.00

**Куплю Беларускую энцыкляпэдыю** ў 18 т. (т.1-6). Т.: 262-67-02

**Куплю кнігі** з сэрыі "Беларускі кнігазбор": Ян Чачот, Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі. Т.: 283-27-34

**Тым, хто цікавіцца** ЗША: кніга "Беларуская Амэрыка" Л.Пранчака ў кнігарні "Акадэмкніга", Скарыны, 72. Т.: 232-46-52

**"Я нарадзіўся тут"** – ст. мэтро "Трактарны завод", ДК "Усход". Штонядзелю з 9.00 да 14.00

**Аўдыё, CD** "Я нарадзіўся тут", "Легенды Вялікага Княства" і інш., відэа "Глядыятар", "На чорных лядах", беларускія кнігі, часопісы, календары шукайце на выставе ТБМ (Румянцава, 13) з 11.30 да 19.00, апроч выходных

**Набуду беларускую Біблію,** Эвангельле, духоўную літаратуру. Т.: 226-42-63

**Відэафільмы "Рок-каранацыя"** (96, 97, 98 гг.) можна набыць у Гомлі. Т.: 45-11-51 (штодня)

**Хутка ў Гомлі** зьявяцца відэафільмы "Матрыца" і "Пан Тадэвуш". Заяўкі праз т.: 45-11-51 (штодня)

**Дапамагу рэалізаваць у Гомлі** беларускую літаратуру (2-5 асобнікаў), CD, аўдыё. Т.: 45-11-51

**Замаўляйце і чытайце** "Голас Краю" — газэту беларускіх нацыяналістаў. Адрас рэдакцыі: 220037, Менск, а/с 49

**Беларускія кнігі**, аўдыё-,відэакасэты, CD – штонядзелю з 9.00 да 14.00. Ст. мэтро МТЗ. ДК "Усход"

**"Сьвечка — сымбаль міру,** але перакуленая сьвечка падпальвае хату". Алесь Сьпіцын. Шукайце на ТБМ

**Ф.Багушэвіч** "Дурны мужык, як варона". Янка Купала "Людзьмі звацца". А.Сьпіцын "Бог даў беларусам больш, чым імпэрыю..." На ТБМ

**Алесь Сьпіцын** — цяпер і ў "Крыніцы"№4 за 2001 г. У шапіках "Белсаюздруку"! Massimo

## пытаньні

**Ці ёсьць сярод патрыётаў** Беларусі хлапцы, здольныя абараніць дзяўчат ад нейкіх гопнікаў з Батанічнага саду? Янка, Наталька, Ніка, Ганя, Даша

**Хто б патлумачыў**, чаму на "свабодным" радыё "Рацыя" дзеюцца дзівосы! Пазьняк падае ў пракуратуру патрабаваньне вырабіць падпісныя лісты па-беларуску, а пракамэнтаваць гэта просяць Сямёна Домаша? Што тое значыць? (Рацыя, 19.06.2001 г.) Прыхільнікі Зянона Пазьняка

## сынтэзатар

**Прыму ў падарунак ці** куплю сынтэзатар, можна няновы. Дапамажыце стварыць беларускі гурт. Т.: 265-46-95

## школка ў Сухараве

**Бацькі!** Калі вы жывяце ў Сухараве і хочаце, каб ваша дзіцё вучылася ў беларускамоўнай пачатковай клясе, тэлефануйце: 215-84-09 (увечары)

## net

**Шукаеш падарунак?** Заходзь у інтэрнэт-краму Так! Мастацкія падарункі ад 500 рублёў, дастаўка па Менску бясплатная. Наш адрас: www.tak.hut.ru, e-mail: tak@tut.by

**У нашу крамку** завітай – падарунак набывай. Прывязем яго дахаты – застанешся вельмі рады. www.tak.hut.ru, e-mail: tak@tut.by

**"Сьвятая Дуброва — Крыўскі Пяроспар"** — адзіны рэсурс беларускага Сеціва, прысьвечаны актуальным пытаньням нэапаганства і дахрысьціянскай традыцыі. http://www.dubrova.cjb.net

**Запрашаем наведаць** сайт беларускіх нацыяналістаў: www.spa-kraj.org

**Жыве Нацыянальная** Рэвалюцыя! БПС у Інтэрнэце: www.bps-belarus.narod.ru

**Прадаю:**
Кнігі — поштай: М.Раманюк "Беларускія народныя крыжы", З.Пазьняк "Глёрыя Патрыя", зб. тв. У.Караткевіча ў 8 т. і інш.
Вышлю каталёг: 220030 Менск- 30 а/с 195, Яну; janka_cit@yahoo.com; Тэл.: 258-43-54.

Ісус сказаў яму: "Я і дарога, і праўда, і жыцьцё.
Ніхто не прыходзе да Айца, калі не цераз Мяне. Іаан. 14:6
**БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА**
Набажэнствы штонядзелю ў Менску а 10-й: Любімава 21-56. Т. 279-71-31, 270-89-87. Штонядзелю ў Асіповічах а 17-й: Леніна, 40. Т. 20-840. Шточацьвер у Барысаве, Ватуціна 38-45. Т. 54-908; шточацьвер у 17.30 у Маладэчне, Асіпенкі 54. Т. 3-18-76

Італьянец, 52/181/65, настаўнік, пяшчотны і чулы, б/дзяцей, б/шкодных звычак, шукае знаёмства зь незамужняй жанчынай гадоў 35-38, б/дзяцей і б/шкодных звычак, каб разам спакойна сустрэць будучыню. Англ./італ. мовы. Enzo Bonzi P.O.Box 33, via Corell, 44, 48018 Faenza (RA) Italia. e-mail: thuria@libero.it, (тэл. 97817, Дуброва)



НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| вярстальніца | Заміра Болцікава |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня УП выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 4602.
Нумар падпісаны ў друк 24.06.2001.
Замова № 3537.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а

НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________